*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 9 (273) | 28 лютага 1996 г. | Кошт — 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НАЗНАЧАНЫ СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА ПА ДРУКУ.** Ім стаў Уладзімір Бельскі. Нарадзіўся Уладзімір Бельскі 20 чэрвеня 1955 года ў вёсцы Слабодка Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння БДУ працаваў у калінкавіцкай раённай газеце, «Советской Белоруссии». З 1988 года — намеснік галоўнага рэдактара газеты «Знамя юности», з 1989-га — галоўны рэдактар газеты «Чырвоная змена». З'яўляецца членам Саюза журналістаў Беларусі і аўтарам кнігі прозы, якая выйшла ў свет у 1995 годзе. Добра валодае беларускай мовай. Віншуючы Уладзіміра Пятровіча з новай пасадай, спадзяёмся, што ён будзе рабіць усё, каб у наш нялёгкі час не загінула беларускамоўная прэса.

○ ***У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» ПАМОЧНІК ПРЭЗІДЭНТА АЛЕГ СЛУКА НА ПЫТАННЕ «ЦІ НЕ СТРАЦІМ МЫ СВАЮ МОВУ?» АДКАЗАЎ:*** *«Ніколі! У 1906 годзе ў Беларусі адбылася цікавая з'ява — Янка Купала пачаў выдаваць газету «Наша ніва» на беларускай мове. Гэта быў узлёт беларускай мовы, з таго часу, нягледзячы на цяжкасці, яна развівалася даволі моцна і змястоўна. І зараз раённыя газеты выходзяць па-беларуску, мову вывучаюць і ў школе, і ў ВНУ... Беларуская мова, як мова еўрапейская, будзе развівацца ў нашай суверэннай дзяржаве». Акрамя слоў, што беларуская мова будзе развівацца, трэба і рэальныя справы ў гэтым накірунку, а пакуль што мы бачым, як беларуская мова выцясняецца са школ, з ВНУ Беларусі.*

○ **АДКАЗВАЮЧЫ НА ПЫТАННІ «ПРАМОЙ ЛІНІІ» «ЗВЯЗДЫ», СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СЯМЁН ШАРЭЦКІ СКАЗАЎ:** «Некалькі гадоў назад родная мова пачала паволі пашырацца ў грамадстве. У нас пачалі былі перакладаць і выдаваць на беларускай мове падручнікі, яна трывала ўваходзіла ў навучальныя ўстановы, у будзённы ўжытак увогуле. Аднак пасля майскага рэферэндуму многія няправільна зразумелі сітуацыю ў краіне. У тым ліку і кіраўнікі. Яны лічаць, што можна валодаць або той, або другой мовай. І калі лягчэй валодаць рускай, таму што доўгі час размаўлялі на ёй, то і пачалі карыстацца толькі ёй. На самай жа справе трэба ведаць, на мой погляд, і тую, і другую мовы. Гэта, дарэчы, адлюстравана і вынікам рэферэндуму. Тады і будуць мовы на аднолькавым узроўні». Да гэтага Сямён Шарэцкі дабавіў: «Вярхоўны Савет у абавязковым парадку вернецца да пытанняў мовы. Закон аб мовах і вынікі рэферэндуму адзін аднаму супярэчыць не павінны».

○ ***ПРЫКЛАДНА ТРЭЦЬ СУСВЕТНЫХ МОЎ ЗНАХОДЗІЦЦА СЁННЯ ПАД ПАГРОЗАЙ ЗНІКНЕННЯ.*** *Толькі на 5 мовах — кітайскай, англійскай, іспанскай, расійскай і хіндзі — размаўляе палова насельніцтва Зямлі. 45 працэнтаў жыхароў нашай планеты гавораць яшчэ на 100 мовах, і зусім мізэрная колькасць людзей выкарыстоўвае як сродак зносін каля 5000 моў, большасць якіх знікне разам са сваімі носьбітамі на працягу бліжэйшых 100 гадоў. Бачачы адносіны кіраўнікоў нашай краіны да беларускай мовы, думаецца: няўжо і нашу мову чакае нябыццё? Няўжо не зразумела ім, што, страціўшы мову, мы страчваем назаўсёды цэлую культуру, нашу беларускую культуру?*

**ВІЦЬБІЧЫ НЕ МАЎЧАЦЬ** Стар. 2.

**ПАСЛЯ ТРОХ УЖО ПОЗНА** Стар. 5.

# Дзеці на краі даху

Выпадак, пра які рэдакцыі паведаміў сябра Баранавіцкай гарадской Рады ТБМ, можна назваць толькі здзекам над безабаронным пакуль яшчэ дзецьмі, хаця спраўцы гэтага здзеку спаліся на закон.

Вось які загад (№ 8 ад 25.1.1996 года) з'явіўся ў аддзеле народнай адукацыі Баранавіцкага райвыканкама.

«Аб пераводзе другога класа Русінаўскай школы на расійскую мову.

У сувязі з заявамі бацькоў навучэнцаў другога класа Русінаўскай СШ аб навучанні дзяцей на расійскай мове, што пацвярджаецца іх пісьмовай заявай, і дзеля выканання Закона Рэспублікі Беларусь аб правах дзіцяці

Загадваю

з 1.02.1996 г. перавесці 2-гі клас Русінаўскай СШ з беларускай на расійскую».

Загад падпісаў Васіль ~~Мікалаевіч~~ Краўчук.

Мы разумеем, што некаторыя (12 з 16-ці) бацькі з Русінаў не задумваліся пра верагодныя вынікі іх згоды раптоўна памяняць мову навучання ў трэцяй чвэрці навучальнага года. Ім, занятым клопатам, як накарміць дзяцей, падалося, што такім чынам яны паспрыяюць навучанню і выхаванню нашчадкаў. Відаць, паслухалі агітатара, які пераконваў іх, што атрыманыя іх дзецьмі веды на расійскай мове адкрыюць дзверы ў ВНУ. На жаль, не падумалі яны, што такім чынам зачыняюць вокны духоўнага свету.

Ці можна спадзявацца, што, «мяняючы коней на пераправе», з вучняў можна зрабіць хаця б проста пісьменных людзей. Зрэшты, не гэта самае страшнае. Сваім неразважным рашэннем бацькі піхнулі дзяцей на шлях маральнага самазнішчэння, падвялі да краю даху. А калі «поедет крыша»? Не дай Бог!

Як паказвае вопыт, не ўсе выпускнікі паступаюць у ВНУ. Некаму давядзецца пасля школы ісці шукаць працу. Як вядома, такіх месцаў няшмат. А там, дзе патрэбныя працаўнікі, вельмі строга выбіраюць найбольш годных, выбіраюць не на вока, а з дапамогай дасканалых тэстаў, распрацаваных спецыялістамі-псіхолагамі высокай кваліфікацыі. Ад іх пільнага вока не ўдасца схаваць вынікаў «звышінтэрнацыянальнага» выхавання. Пагарда да непадобнага пагражае адбіцца перш за ўсё на ўменні працаваць у калектыве, дзе сабраліся людзі розных нацыянальнасцяў. Ці можна быць упэўненым, што пагарда да роднай мовы, якую культывуюць у Русінах і Баранавічах, не абернецца траянскім канём?

Ва ўсім свеце не знойдзеш нацыі, апроч беларускай, якая грэбавала б роднай мовай. І ці ўяўляеце вы, шаноўныя бацькі русінаўскіх дзяцей, як паставяцца да вашых нашчадкаў людзі іншых нацыянальнасцяў, з якімі ім давядзецца сутыкацца? Грэбаваць такімі «беларусамі» культурныя людзі можа і не будуць, бо будуць спачуваць ім ды шкадаваць неразумных «звышінтэрнацыяналістаў». Але, напэўна, не пажадаюць падзяліць з імі адказнасць за нейкую сур'ёзную справу: а раптам яны ў нейкі момант звернуць у бок.

І што ўжо напэўна: русінаўскія сацькі сваім хістаннем не дадуць прыклад годнасці, не выхаваюць годнасці ў сваіх нашчадкаў. Кім жа можа стаць чалавек, які не цэніць сябе, не мае годнасці? — Жабраком!

Бойцеся данайцаў, што прыносяць дарункі! Не знайшлося, відаць, сярод русінаўскіх настаўнікаў, не кажучы ўжо пра іх раённае начальства, людзей, якія б растлумачылі бацькам вучняў другога класа сэнс гэтага легендарнага выслоўя. Траянцы сваёй, сваіх жонак і дзяцей крывёю заплацілі за гэткі досвед. На жаль, не ўсе ведаюць пра падзеі той траянскай вайны. Да таго ж, магчыма, і не захочуць даведацца. Можа да іх выразней прамовіць згадка пра нядаўні жудасны выпадак, пра які мне расказалі ў Русінах. Дзяржаўны чалавек зліваў шофера на «гарачым учынку»: той зліваў бензін з «сваёй» дзяржаўнай машыны. Адлаведныя пагрозы «дзяржаўнага» мужа, а да таго ж адлаведная ацэнка здарэння ў шоферавай сям'і — адлаведныя, але не сумерныя «злачынству» рэакцыі прывялі шофера да краю пяціпавярховага дома.

Русінаўскія бацькі! Бацькі ўсіх вучняў, якіх лётась перавялі на расійскамоўнае навучанне! Вашыя дзеці ўжо на даху! Бойцеся дарадцаў, якія зманьваюць вас прывідам лёгкасці. Край даху блізка.

**З.СІЦЬКА.**

# Летувісы паважаюць Беларусь і беларусаў

Незабыўнае ўражанне пакінуў у мяне ўдзел у рабоце першага з'езда летувісаў Беларусі, што адбыўся нядаўна ў Менску. З якой заклапочанасцю дбаюць іх суполкі ў недалёкай ад Ліды Пелясе, вёсках Астравецкага раёна, у Гародні і іншых месцах аб родных каранях і захаванні нацыянальных традыцый! У чым пераканаўся я, не раз бываючы ў тойжа Пелясе і мясцовай летувіскай школе, а таксама на згаданым з'ездзе.

Моцна ўразілі мяне выступленні дэлегатаў. З якой павагай гаварылі яны пра Беларусь і беларусаў! І амаль кожны прамоўца частку свайго выступлення прамаўляў на беларускай мове. Ды не толькі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, як старшыня рэспубліканскай рады летувіскіх суполак Віргінія Тарнаўскене, настаўнік Ёнас Мацюляйчус, журналіст Ёнас Лаўрынавічус, а і сялянкі-пенсіянеркі Марыя Кропене, Ядвіга Касявічэне і іншыя. Які прыклад для кіраўнікоў нашай краіны рознага ўзроўню! На жаль, прадстаўнік Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, выступаючы на з'ездзе, ніводнага беларускага слоўца не вымавіў. Што здзівіла, вядома, дэлегатаў.

**А.ЖАЛКОЎСКІ.**

### *Творчасць нашых чытачоў*

Нядаўна памёр мой добры знаёмы, старэйшы жыхар г.Пінска Мікола Палюховіч. Моцна любіў ён сваё Палессе і шчыраваў дзеля яго, як дазвалялі яму яго ягоныя магчымасці і здольнасці. Меў ён сэрца Паэта і спрабаваў перадаць у вершах свае пачуцці. Сярод сваіх папер я нядаўна знайшоў верш, які ён склаў і падараваў мне незадоўга да скону. Перачытваючы яго і абдумваючы, напісаў я нешта і сваё.

**Ваш чытач і падпісчык.**

## Памятай, беларусу

*Памятай, беларусу! Ты ў сваім краю!*
*Маеш і продкаў, і мову сваю.*
*Грай гімны свабоды, грай гімны надзеі,*
*Вершнік з дрыганту* ў вешчу трубу!*

*На славу чужую свой розум і сілу,*
*І кроў нашы дзеды няслі.*
*Служылі, паілі, кармілі, а самі?*
*А самі ў галечы жылі.*

*Братку беларусу, скінь з вочу запону,*
*Будзь з Богам і вер ў сябе, ў свой народ.*
*Не вер абяцанкам, гэта аблуда,*
*Што толькі ў Сібір завядзе.*

*Наш край стаў дзяржавай, на роўні з другімі,*
*У нашых руках яго дабрабыт.*
*Бярэмася дружна*
*За працу, за раллю, хай людзі пабачаць —*
*Мы тожа дастойны, свабодны народ.*

**Дрыгант — старажытная парода коней.*

**Мікола ПАЛЮХОВІЧ.**

## Памятай, браце

*Гэй, беларусе! Што нэндзу трываеш?*
*Ты ж на Радзіме і пекны твой край,*
*Годныя мову і спадчыну маеш,*
*Успомні пра гэта і гонар трымай!*

*Памятай, браце, крыніцаю сілы*
*Ад веку быў вольнай Радзімы абшар;*
*Тут карані твае, продкаў магілы.*
*Гэтай зямлі ты адзін гаспадар.*

*Вершніка ў срэбры — святую Пагоню,*
*Сымболь і дух твайго роду й зямлі*
*У сэрцы трымай, каб свабоду і гоні*
*Злыя чужынцы стаптаць не маглі.*

*Уставай, абуджайся, з вачэй скінь запону,*
*Не вер забабонам з чужое мяжы.*
*Твой край стаў дзяржаваю Боскаю воляй,*
*Працуй для сябе і свой Храм беражы.*

**В.САВІЧ.**

## Падпіска

на «Наша слова» прымаецца ва ўсіх паштовых аддзяленнях
Індэкс 63865
Кошт на 1 м-ц 3250 рублёў, на квартал — 9750 рублёў.
Шаноўныя сябры!
Прапануйце падпісацца на «Наша слова» сваім знаёмым.

# Віцьбічы не маўчаць

У Віцебску Таварыствам беларускай мовы быў наладжаны гарадскі сход прыхільнікаў беларускага слова, каб абмеркаваць сітуацыю, што склалася на гэты час у горадзе з выкананнем Законаў аб мовах і адукацыі, якія ніхто не адмяняў.

На сход прыйшлі людзі розных палітычных поглядаў, выкладчыкі ВНУ, настаўнікі і бацькі вучняў беларускамоўных класаў, прадстаўнікі суполак ТБМ з прадпрыемстваў і арганізацый горада, якія заклапочаны накатам той хвалі, што разбурае нацыянальную адукацыю.

Арганізатары сходу не разлічвалі нават на такую колькасць людзей. У зале абласной бібліятэкі не ўсім хапіла месца. Людзі заклапочаны тым, што будзе далей, як будуць вучыцца дзеці ў беларускамоўных класах, што станецца з беларускамоўнымі дзіцячымі садамі — усё няпэўна і неакрэслена. Ёсць законы, дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы, а з другога боку робіцца ўсё, каб народ застаўся безгалосай «рабсілай».

Каб спакойна абмеркаваць гэтыя і іншыя пытанні і вызначыцца на далейшае, ТБМ запрасіла на сход кіраўнікоў гарвыканкама, гарадской і абласной адукацыі, дзяржуніверсітэта (былога педінстытута). На жаль, першых асоб, што былі запрошаны асабіста, на сходзе не было. Толькі кіраўнік аблана прыслаў на сход свайго прадстаўніка. Такім чынам, размовы кіраўніцтва з народам не адбылося, як не адбываецца апошнім часам адкрытай гутаркі з прадстаўнікамі ўлады ўвогуле. І тлумачыцца гэта не толькі іх нежаданнем ісці ў народ, а тым напружаннем, якое ствараецца ва ўзаемаадносінах высокага начальства з больш нізкім. Што могуць адчуваць і як сябе паводзяць людзі, калі прылюдна, амаль кожны дзень, робяцца «разносы» на высокім узроўні і дэманструецца непрыхаванае хамства? Што будзе, калі нехта не патрапіць у патрэбную каляіну адносін да беларускай мовы і культуры, што пануюць у высокіх сферах?

Прыкра назіраць, як паважаныя людзі часта трапляюць у становішча вінаватых перад «бацькам» шкаляроў за «няправільныя» паводзіны.

Вынікам абмеркавання галоўнага пытання на сходзе была адпаведная заява.

**В.АРЛОЎ,**
**старшыня віцебскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

## У абарону беларускай мовы

Сход віцебскай грамадскасці, якая заклапочана наступам на беларускую мову і культуру, адзначае, што тармозіцца працэс адраджэння беларускасці ў сферы ўсяго грамадскага жыцця. Ён набывае характар ранейшай русіфікацыі і скіраваны на паступовую асіміляцыю, замаскіраваную фарысейскімі разважаннямі — цяпер ужо аб славянскім адзінстве.

Рэферэндум, мэтай якога была ўзаконеная расправа над беларускай мовай рукамі саміх падманутых беларусаў, даў падставу яго арганізатарам спадзявацца на тое, што беларуская мова, згубіўшы цвёрдыя гарантыі адзінай дзяржаўнай, канчаткова будзе выцеснена з ужытку і сканае.

У Віцебску ў мінулым навучальным годзе па-беларуску навучалася ў школах 3300 вучняў, у тым ліку 698 амаль у сарака першых класах. У гэтым годзе іх ужо адпаведна каля 2000 і толькі пяць першых класаў. Адзіная гімназія са статусам беларускамоўнай пераходзіць на расійскую мову. Зачыняюцца групы і дзіцячыя сады, якія працавалі на беларускай мове, а колькасць дзяцей, што выхоўваюцца па-беларуску, зменшылася ў параўнанні з леташнім утрая. Расфарміроўваюцца беларускамоўныя класы, якія па некалькі гадоў працавалі на беларускай мове і не з прычыны, што бацькі не жадаюць вучыць там сваіх дзяцей, а таму, што ім так «раяць». Людзі, дзесяцігоддзямі выхаваныя ў рэчышчы падпарадкавання неабмежаванай і бескантрольнай уладзе розных «першых» асоб у дзяржаве, адназначна ўспрынялі «арыентацыю» Прэзідэнта Лукашэнкі на непатрэбнасць беларускай мовы.

З падачы выканаўчай улады ў жыццё ўкараняецца знявага і неабавязковасць да выканання Канстытуцыі, Законаў аб мовах і адукацыі. Беларуская мова — ужо падчарка на нацыянальным беларускім радыё і тэлебачанні. Не зразумець, якое радыё мы слухаем — беларускае ці расійскае. Рэклама і «Паднятая цаліна», дзіцячыя і рэлігійныя перадачы, афіцыйныя выступленні і нават байкі падаюцца пераважна па-расійску. Карэспандэнты з афіцыйнымі асобамі пачалі размаўляць па-расійску.

Нас упарта вяртаюць у той час, калі ўсё нацыянальнае, у тым ліку і беларуская мова, лічылася варожым.

За роўны статус расійскай мовы з беларускай прагаласавала 54% ад усіх выбаршчыкаў, што мелі права голасу і якія далёка не ўсе разумелі наступствы гэтай акцыі. Паўстае законнае пытанне — хто дазволіў грэбаваць думкамі, пачуццямі, правамі тых грамадзян Беларусі, якія належаць да астатніх 46%? Роўны статус патрабуе роўнасці ўжывання і, галоўнае, — стварэння ўмоў і магчымасцей для гэтага.

А таму мы патрабуем перш-наперш:

***1. Каб у нашай дзяржаве выконваліся Канстытуцыя і Законы нашай дзяржавы, накіраваныя на моўнае і культурнае адраджэнне.***

***2. Павінна быць не толькі захавана, а і павялічана колькасць беларускамоўных дзіцячых садоў, беларускамоўных школ. Кожны значны гарадскі мікрараён, апроч расійскамоўных школ, павінен мець хаця б адну беларускамоўную.***

***3. Аднавіць пісьмовы экзамен для выпускнікоў сярэдніх школ па беларускай мове.***

***4. Ва ўсіх ВНУ павінен абавязкова здавацца ўступны экзамен па беларускай мове і літаратуры, стварацца беларускамоўныя патокі і ВНУ.***

***5. Павінна быць захавана канцэпцыя нацыянальнай адукацыі.***

***6. Кожны службовец павінен валодаць беларускай і расійскай мовамі і ў кароткі тэрмін здаць экзамен на адпаведнасць валодання мовамі ў межах сваёй службовай кампетэнцыі, а вышэйшыя службовыя асобы і выбраннікі народа павінны дэманстраваць веданне і павагу да беларускай мовы і культуры Беларусі.***

Мы прапануем Сакратарыяту ТБМ імя Ф.Скарыны інфармаваць адпаведныя структуры ЮНЕСКА і Еўрапейскага Саюза аб палітыцы культурнай і моўнай дыскрымінацыі карэннага насельніцтва Беларусі, што робіць праблематычным самаідэнтыфікацыю беларусаў як асобнага еўрапейскага народа, аднаго з заснавальнікаў ААН.

Мы звяртаемся да суайчыннікаў, прыхільнікаў беларускага слова з заклікам: стварайце суполкі Таварыства беларускай мовы, абараняйце беларускую мову, беларускую школу, сваю годнасць, беларускі лад жыцця. Няхай беларускае слова гучыць у школе і дома, у грамадскім месцы і службовым кабінеце.

**Прынята на гарадскім сходзе прадстаўнікоў суполак ТБМ, прадпрыемстваў, ВНУ, арганізацый, настаўнікаў і бацькоў вучняў беларускамоўных класаў г.Віцебска.**
**10 лютага 1996 г.**

АЛЕ! АЛЕ!

# Вахцёр выканкама заліваўся ад смеху, малады чыноўнік яму ахвотна дапамагаў...

Гэты прыкры выпадак меў месца не ў асяроддзі славянасаборцаў ці «ліберал-дэмакратаў», для якіх адкрытае ганьбаванне ўсяго беларускага з'яўляецца нормай паводзін, а ў сценах Заводскага райвыканкама сталіцы. Увечары 1 лютага мелася адбыцца сустрэча раённай Рады Таварыства беларускай мовы з загадчыцай аддзела культуры спадарыняй Бараноўскай ў яе кабінеце. Тэмай гутаркі былі падрыхтоўка і правядзенне сямейнага свята ўраджэнцаў Дзятлаўскага раёна «Спатканне з Бацькаўшчынай». Адна Рада ТБМ, вядома, не ў стане праводзіць такія мерапрыемствы, таму даводзіцца звяртацца па дапамогу ў выканкам. Такімі святамі раённая Рада Таварыства дзякуючы ініцыятыўнасці яе сяброў і, перш за ўсё, яе старшыні Міколы Лавіцкага час ад часу радуе жыхароў раёна. Пры ўсіх цяперашніх цяжкасцях сябры Рады робяць усё магчымае, каб падтрымліваць у душах сваіх суграмадзян цяпельца беларускасці, не даць яму згаснуць да лепшых часоў, калі нацыянальна свядомыя грамадзяне і кіраўніцтва дзяржавы стануць паняццямі ідэнтычнымі.

Аднак, калі я, ідучы на сустрэчу, пераступіў парог выканкама, мне нечакана далі зразумець, што такія блаславёныя часы настануць у Беларусі яшчэ няскора. Як толькі я ўвайшоў у фае выканкама, перада мною, як і звычайна ў нашай яшчэ наскрозь савецкай дзяржаве, дзе «бдительность» вышэй за закон і мараль, вырасла постаць вахцёра, з вуснаў якога прагучала стандартнае «новоязовское», на «прыстойнай» мове «Вы к кому?» Калі я адказаў, што кіруюся на сустрэчу раённай Рады Таварыства беларускай мовы са спадарыняй Бараноўскай, твар нядрэмнага вартавога расплыўся ў іранічнай усмешцы: «Ну, раз есть такая организация, то она должна работать». Пры гэтым яго гаворка перапынялася неаднаразовым «ха-ха» — чалавек ледзь стрымліваў прыступ смеху. У гэты час міма праходзіў малады чыноўнік выканкама, у асобе якога пастава вахцёра да нашага Таварыства знайшла, мяркуючы па ўсім, гарачага прыхільніка, бо цяпер ужо абое яны заліліся здзеклівым смехам. Не могучы сцярпець знявагі, я спытаў веселуноў: чаму ім так смешна?

Адказаць яны не змаглі. Але ж гэта так зразумела — веселуны ўпэўнены ў марнасці рабіць нешта не так, як падабаецца начальству. На вялікі жаль, і ўвесь наш народ у выніку многіх дзесяцігоддзяў прыніжэння і растаптвання сваёй годнасці ніяк не можа вызваліцца ад рабскага трымцення перад «начальствам». Наменклатура, якая амаль цалкам яшчэ ўчарашняя, савецкая, пачувае сябе перад «чэрнью» яшчэ камфортна і дыктуе свае правілы жыцця. Але часы пакрысе мяняюцца, і вось ужо ў іх адрас з боку народа пачынаюць гучаць бессаронныя рэплікі. Усмактаўшы за доўгія гады таталітарызму да мозгу касцей ідэю сваёй выключнасці, непагрэшнасці, успрымаць гэтыя рэплікі чыноўнікі дастойна не могуць. Таму, маё пытанне, відаць, закранула самалюбства выканкамаўскіх работнікаў, бо ўсмешкі з іх твараў умомант зніклі. Не хаваючы сваёй перавагі, малады чыноўніке задзірыста адказаў: «Какое вам дело, с чего я смеюсь?» Я даў ім абодвум зразумець, што смех з таго, з чаго яны смяяліся, мякка кажучы, не ўпрыгожвае іх найперш як прадстаўнікоў улады. Урэшце, адчуўшы нечаканы адпор, чыноўнік паспяшаўся знікнуць за дзвярыма свайго кабінета.

Радзіма павінна ведаць сваіх герояў. Наўмысна не бяру апошняе слова ў двукоссе. Аўтарамі выслоўя з'яўляюцца бальшавікі, а ў часы іх кіравання інакіроўвання ўсё ў нашым жыцці мела двайны сэнс, што было заканамерным у грамадстве двайной маралі. Якія тады былі героі, пакрысе становіцца зараз вядома: «их именами названы улицы»... Дык вось маладым чыноўнікам Заводскага райвыканкама, у якога ўпамінанне Таварыства, заклікананага абараняць мову беларусаў, выклікае смех, аказаўся загадчык аддзела па справах моладзі спадар Сяргей Аляксандравіч Юрын. А пра бальшавікоў я згадаў не выпадкова; вельмі ўжо знаёмымі па нядаўніх часах падаліся мне манеры людзей, сустрэтых мной у фае выканкама. Аблічча вахцёра таксама не сведчыла аб яго рабочай біяграфіі. Спадар жа Юрын, мяркуючы па яго сённяшніх службовых абавязках, перасеў у выканкамаўскае крэсла з камсамольскага. Як хто, а я, напрыклад, не ведаю, ці ёсць патрэба ў аддзелах, які ён узначальвае. Натуральна, іх загадчыкі, як былыя ідэолагі, падкаваныя па часці красамоўства, каб абгрунтаваць іх неабходнасць. Абгрунтаваць можна ўсё. Але што, людзям сталага ўзросту сёння лягчэй? І чаму маладыя людзі ад безвыходнасці становішча, бывае, зводзяць рахункі з жыццём? Ці не з'яўляюцца гэтыя аддзелы проста кармушкай для былой камсамольскай наменклатуры? Ды і чым могуць дапамагчы маладым грамадзянам Беларусі такія абаронцы, як спадар Юрын? Зрачыся свайго роду-племені? Але па савецкаму мінуламу мы ведаем, што чалавек, які траціць сувязі са сваім народам, ператвараецца ў маргінала, люмпена — агіднае, звыродлівае параджэнне савецкай сістэмы, якому мы абавязаны нашай жахлівай адсталасцю і няздольнасцю яе пераадолець. Люмпену з яго прымітывізмам патрэбнасцей усё роўна, каму служыць і ў якой краіне жыць — абы карміцца. Пры адпаведнай ідэалагічнай апрацоўцы люмпен лёгка можа ператварыцца ў зомбі, якога можна паслаць ваяваць за чужыя інтарэсы, у тым ліку і супраць уласнага народа. А ўсё таму, што чалавек найперш стаў манкуртам, паводле трапнага выразу геніяльнага Чынгіза Айтматава, зрокся сваёй мовы — той повязі, якая яднае чалавека з уласным народам. Ці трэба даказваць, што за доля чакае такога чалавека? Так што прычынна-выніковая сувязь мовы і каўбасы відавочная.

Менавіта для людзей з камуністычнымі поглядамі чалавек як асоба проста не існуе. Яны прывыклі мець справу з «масамі», якіх яны сілком вялі ў «светлае заўтра», вымошчваючы дарогу туды іх уласнымі касцямі. Адсюль і адпаведныя адносіны да простага чалавека з усімі яго прыроднымі асаблівасцямі. Памятаеце, як А.Салжаніцын у рамане «Ракавы корпус» апісвае, з якімі пачуццямі адносіліся вымушаны наменклатурны пацыент «агульнага» (з-за адсутнасці «закрытага») анкалагічнага дыспансера і члены яго сям'і да простых людзей? Яны іх баяліся і ненавідзелі, бо не маглі не адчуваць віны перад тымі, за чый кошт будавалі свой наменклатурны дабрабыт. Вось і ў спадара Юрына, ды і ў вахцёра разам з намеклатурнай пенсіяй зарплата такая, пра якую рабочы «запушчанага» завода можа толькі марыць (знарок акцэнтую ўвагу на працаўніках сферы матэрыяльнай вытворчасці, бо менавіта гэтыя людзі кормяць усіх астатніх, яны ж з'яўляюцца захавальнікамі народнай культуры і мовы). Затрымак з выплатай грошай у выканкаме, думаю, не бывае. Дык чаму б не пасмяяцца з дурняў-рабацяг разам з іх «мовай»? Акурат, як у казцы: «Мужык, ты мяне накарміў? Цяпер рассмяшы». Вось і смяюцца з нас, як смяяліся больш двухсот год назад з мужыкоў-беларусаў — персанажаў школьных інтэрмедый, якіх спецыяльна выстаўлялі на пасмешышча разам з іх мовай (толькі рэплікі гэтых дзеючых асоб у інтэрмедыях былі на беларускай мове). Але ж гэта было XVIII стагоддзе, там яшчэ былі адгалоскі сярэдневяковага варварства. Ды жыццё паказвае, што ў псіхалогіі ўладу маючых, калі яны абараняюць інтарэсы суседняй краіны, нічога не мяняецца. І гэтак будзе да таго часу, пакуль беларус не адчуе сябе гаспадаром у сваёй хаце.

Ці можа ў такіх умовах быць прыстойным наша жыццё? Ці можа жыць прыстойна пагарджаны ўладай народ? Бо «язык», з якога смяяліся ў выканкаме, гэта даўней і народ, і мова (параўн. у Пушкіна: «И назовет меня всяк сущий в ней язык»). Адказ на гэтае пытанне даў яшчэ ў пачатку нашага «цывілізаванага» стагоддзя геніяльны Купала ў сваім вершы «Мужык». Можна яшчэ спытаць сённяшніх пенсіянераў, якія, каб неяк звесці канцы з канцамі, вымушаны з рызыкай для здароўя на дваццаціградусным марозе гандляваць семкамі і цыгарэтамі.

Зайшоўшы ў кабінет, дзе сабраліся мае сябры па Радзе Таварыства, я адтаяў душою. Бо тут сядзелі не чыноўнік і прасіцелі, а сябры-аднадумцы. Уражанне ўзмацнялася тым, што сама гаспадыня кабінета аказалася нечакана для мяне зусім маладой дзяўчынай. У нязмушанай гаворцы мы канструктыўна вырашылі ўсе нашыя праблемы. Спадзяёмся і на поспех справы. Вось толькі наконт таго, што можа не варта яшчэ здымаць партрэты Леніна, я з вамі, шаноўная Людміла Мікалаеўна, не згодзен. Бо менавіта Леніным было падрыхтавана і здзейснена тое асноўнае, з-за чаго і разгарэлася сённяшняя нацыянальная трагедыя беларускага народа. Гэта кастрычніцкі пераварот, у выніку якога да ўлады прыйшлі людзі, якія аб'явілі вайну ўсяму агульначалавечаму.

**Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

Наш каляндар

# «Лёс вызначыў мне...»

А чацвёртай гадзіне апаўдня 1 сакавіка 1881 года пецярбуржцы, што сабраліся на Дварцовым пляцы, убачылі над Зімовым (Зімнім) палацам чорны сцяг. Усе зразумелі, што смяротна паранены гадзіну таму цар Аляксандр II памёр. Створаная ў жніўні 1879 года рэвалюцыйная арганізацыя «Народная воля» дамаглася свайго. Хаця яе мэтай было палітычнае змаганне, а не тэрор, пасля некалькіх смяротных прысудаў рэвалюцыянерам Выканаўчы камітэт «Народнай волі» зацвердзіў такую ж самую форму помсты.

Народавольцам тэрор уяўляўся толькі сродкам самаабароны партыі і помсты за ахвяры ўрадавага пераследу. Забойства цара бачылася адзінай магчымасцю разбудзіць соннае грамадства, штуршком рэвалюцыйнага руху, спосабам дамагчыся ад урада рэформаў.

Напачатку рыхтавалі падрыў на чыгунцы. Перш — пад Адэсай, цар жа паехаў з Крыма іншым шляхам. Такі варыянт народавольцы прадугледзелі, ды пад Аляксандраўскам мінныя запалы не спрацавалі. Трэцяя спроба ладзілася ў лістападзе ў Падмаскоўі. З спецыяльна скупленага доміка зрабілі 40-метровы тунель пад чыгунку. Міна выбухнула, але пад поездам, у якім ехала світа — насуперак традыцыі яго пусцілі першым. Замах 19 лістапада меў розгалас, газеты адзначылі дасканалую інжынерную падрыхтоўку падкопу. Змоўшчыкам удалося пазбегнуць арышту. Чацвёрты замах здзейснілі 5 лютага 1880 года непасрэдна ў Зімовым палацы, але цар не выйшаў у звычайную пару ў сталовую — тры пуды дынаміту выбухнулі дарма.

Дзеля чарговага замаху абралі даўнюю тактыку. Нанялі сырную краму, адкуль пачалі весці падкоп пад вуліцай, па якой Аляксандр II ездзіў у манеж. Была падрыхтавана міна, але раптоўны арышт кіраўніка «Народнай волі» Андрэя Жалябава, хоць той і не выдаў таямніцы, ледзь не разбурыў планы замаху. Ды змоўшчыкі прадбачылі верагодныя змены і падрыхтавалі некалькі дадатковых замахаўцаў. Кіравала імі Соф'я Пяроўская. Калі цар не паехаў звычайным шляхам, яна паставіла хаўруснікаў на новым месцы на набярэжнай Кацярынінскага канала. Першая бомба пашкодзіла царскую карэту. І калі Аляксандр II выйшаў, каб глянуць на замахаўца, кінуў сваю бомбу Ігнат Грынявіцкі. Выбухам быў смяротна паранены сам Ігнат. Ён доўга мучыўся, але валодаў сабою... За некалькі хвілін да смерці Грынявіцкі апрытомнеў. Ды калі следчы запытаў замахаўца пра ягонае імя, то пачуў адказ: «Не ведаю».



Пра асобу царскага забойцы даведаліся толькі пазней, пасля працэсу над кіраўнікамі «Народнай волі».

Ігнат Яўхімавіч Грынявіцкі (паводле БелСЭ) — нашчадак беларускага шляхецкага роду. Ён нарадзіўся ў маёнтку Басін Бабруйскага павета, вучыўся ў Беластоцкай гімназіі, дзе быў лепшым вучнем. У 1875 годзе Ігнат паступіў у Пецярбургскі інстытут, але мары пра навуку давялося адкласці, бо яго захапіла рэвалюцыйная дзейнасць. Пасля няўдалай спробы стварыць баявыя дружыны ў вёсках, ён, сябра «Народнай волі», пачынае агітацыю ў рабочым асяроддзі і нават уступае ў баявую рабочую дружыну. Ігнат Грынявіцкі непасрэдна ўдзельнічаў у стварэнні (пісаў артыкулы і набіраў іх) нарадавольскай «Рабочай газеты». Ён — адзін з заўзятых заснавальнікаў беларускай мясцовай фракцыі (партыі «Народная воля»), нацыянальная праграма якой была надрукавана пазней, у 1884 годзе ў другім нумары часопіса «Гоман».

За некалькі дзён да смерці Ігнат Грынявіцкі напісаў свой рэвалюцыйны запавет: «Аляксандр II павінен памерці. Дні ягоныя злічаны. Мне ці іншаму каму давядзецца нанесці страшны, апошні ўдар, які гулка разнясецца па ўсёй Расіі ды рэхам адгукнецца ў аддаленых яе кутках. Гэта пакажа недалёкая будучыня. Ён памрэ, а разам з ім памром і мы, ягоныя ворагі, ягоныя забойцы... Мне не давядзецца ўдзельнічаць у апошнім змаганні. Лёс вызначыў мне раннюю гібель, і я не ўбачу перамогі, не буду жыць ніводнага дня, ні гадзіны ў светлую пару ўрачыстасці, але мяркую, што сваёй смерцю зраблю ўсё, што павінен быў зрабіць».

Час паказаў, што гэта была вялікая, трагічная памылка.

**Падрыхтаваў З.С.**

АЛЕ!

# Падарунак засмуціў

У канцы студзеня ў нашай раённай газеце (думаю, і ў другіх раённых) надрукавана было паведамленне-рэклама «Падарунак на 100 год». Гутарка ідзе пра памятнае выданне-пажаданне «Завет гражданину Республики Беларусь XXI столетия». Ён выдадзены часопісам Прэзідэнта «Беларуская думка».

«Завет» з самага пачатку года паступіў у Ашмянскі аддзел ЗАГСа для ўручэння бацькам нованароджаных дзетак. Рэкламна-выдавецкі аддзел часопіса звяртаецца да калегаў па пяру, каб падтрымалі гэту падзею, да кіраўнікоў, каб на адным з бліжэйшых пасяджэнняў райвыканкама абмеркавалі і дапамаглі зрабіць яе традыцыяй.

Выданне-пажаданне сапраўды патрэбнае і карыснае, бо яно дае магчымасць «ужо зараз нам, беларусам, ... закладваць трывалы падмурак XXI стагоддзя.., самім пачаць пісаць галоўную кнігу ў сям'і... радаслоўнае дрэва...» Але, на здзіўленне, выдадзена яно не на мове гэтых беларусаў, а на мове суседзяў, што ў выніку рэферэндуму і пры дапамозе начальства стала актыўна выштурхоўваць беларускую з уласнай, так бы мовіць, хаты. Праўда, у «Завеце» невялічкі ўступ і верш надрукаваны па-беларуску, але гэта справы не мяняе. Да такога магла дадумацца толькі такая ўлада, якая ўжо сёння робіць многае, каб разбурыць самасвядомасць беларусаў канчаткова.

Гаварыць пра «маладую беларускую краіну», пра «новага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь» і не прызнаваць іх мову — хіба ж гэта не ёсць здзек і глумленне з годнасці беларусаў? А яшчэ ў гэтым адчуваецца перспектыўнае бачанне сённяшняй нашай уладай будучыні Беларусі: у новым стагоддзі ліквідаваць беларусаў як самастойны народ і «вырошчваць толькі» насельніцтва РБ, рабочую сілу. Што і робіцца дзякуючы радыё і тэлебачанню.

Дарэчы будуць словы з верша Алеся Гаруна:

*«Ты, мой брат, каго зваць беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся;*
*Як не зрокся яе пад прымусам,*
*Так і вольны цяпер не зракайся».*

Дык вось, мы цяпер вольныя людзі (пакуль што) і ад мовы сваёй не адмовімся. А шырокае і паўсюднае ўжыванне ў нас расійскай — гэта бяда народа, яго хвароба, якую трэба лячыць. Вось бы ў гэтым і ўбачыць сапраўдную вялікую мэту сённяшняй улады: дапамагчы ўсімі сродкамі акрыяць беларускаму слову, беларускай самасвядомасці, годнасці.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ.**
г.Ашмяны.

Згадкі

# Сустрэча на Мядзельшчыне

*(Да 90-х угодкаў з дня нараджэння М.М.Улашчыка)*

Сакратар парткома саўгаса «Канстанцінаўскі», што на Мядзельшчыне, Гарцуеў Аляксандр Пятровіч аднойчы патэлефанаваў мне і папрасіў, каб я пабыў гідам для турыстаў — вучоных з Масквы па Альшэўскай сядзібе Хамінскіх і Блакітных азёрах. Сустрэча была назначана ля саўгаснай канторы. У назначаны час сюды прыйшоў чалавек сталага ўзросту, але даволі рухавы, у чорных касцюмных портках, цёмна-сінім світары і блакітнай паркалёвай кепцы з казырком. Каротка прадставіўся — Улашчык. З ім была жанчына ў турысцкай вопратцы.

Ад Камарова да Альшэва — 6 кіламетраў і не зусім добрай дарогі. Транспарту, каб нас «падкінуць», не было, бо ішла як раз касавіца. Нарэшце, Гарцуеў А.П. прапанаваў свой «масквіч-пікап». Жанчыну пасадзілі да сябе ў кабіну, а мяне і госця, як мужчын, — у будку, якая была без акон і зачынялася толькі знадворку. Сядзеннямі служылі дзве скрыні, пакрытыя паношанымі ватоўкамі. Пікап быў пабіты, праз шчыліны пападаў пыл. Але госць быў спакойны. Я папярэдзіў яго, што ў час аповяду пра сваю мясцовасць я магу збіцца на беларускую мову, і папрасіў, каб перапытваў, калі што будзе незразумела. На маё здзіўленне, маскоўскі госць на чыстай беларускай мове сказаў, каб пра гэта я не турбаваўся, і дабавіў, што як суразмоўца па-беларуску я буду яму не толькі зразумелым, але і пажаданым.

Выселі ля Альшэўскага палаца. Унутр не пранiклі, бо ўсе пакоі былі замкнёны (на той час там памяшчалася школа-сямігодка, клуб бібліятэка і крама). Мой суразмоўца сказаў, што яго вельмі цікавяць звесткі пра гаспадарку Хамінскіх, іх бібліятэку. Ён паведаміў таксама, што змясціў у 35-м томе Поўнага збору рускіх летапісаў «Альшэўскі летапіс», які датуецца 1550-м годам. Яго паведамленне заінтрыгавала мяне, я адчуў, што гэта не звычайны сталічны аматар прайсціся па старасвецкіх сцежках, ваколіцах Блакітных азёр. Але і распытаць, хто ён, я не асмельваўся, ды і не было магчымасці, бо госць засыпаў мяне пытаннямі. Яму было цікава ўсё. Я расказаў, што першая рэзідэнцыя была ў Бакштах, а пасля пажару перанеслі ў Альшэва, пра вялікі пясчанік, з якога высечана брама, пра бібліятэку, элітных коней, што Хамінскі валодаў дзевяццю замежнымі мовамі.

Яго вельмі цікавілі легенды пра [illegible] (кветкі Венерын башмачок), пра ліліі ў сажалках Амежа, пра Дзявіцу па Грымучым ручаі. Дамбамі прайшліся ля сажалак, узабраліся на гару, з якой адкрываецца панарама Глублі і Глубелькі, у Бындры па кладцы перайшлі Страчу і выйшлі на бальшак Лынтупы — Свір.

Па дарозе госць сказаў, што выбраць мяне за гіда яму параіў Чарняўскі Міхаіл Мяфодзьевіч, дырэктар Нарацкай СШ, і паведаміў, што апошняму ён падараваў 35-ты том Поўнага збору рускіх летапісаў. На развітанне госць прапанаваў мне арганізаваць фатаграфаванне альшэўскіх і бакштанскіх забудоў. Ён меў намер напісаць пра Альшэва артыкул.

Так у мяне адбылася сустрэча з вядомым вучоным-гісторыкам Мікалаем Мікалаевічам Улашчыкам. Пазней я даведаўся, што гэта быў за чалавек, які руплівец беларушчыны, навуковец, шкадаваў за ўпушчаны шанц атрымаць ад яго дапамогу ў краязнаўчай рабоце.

І што адразу моцна ўразіла: навуковец такога высокага кшталту і такі сціплы. Уразіла і яго добрая беларуская мова. Гэта, нягледзячы на тое, што амаль усё сваё жыццё яму давялося пражыць у Расіі.

**Іван ДРАЎНІЦКІ.**
Мядзельшчына.

Мова і мы

# Патрэбнае ўдакладненне

Афіцыйна прынята лічыць, што беларуская мова складаецца з двух дыялектаў — паўночнаўсходняга ды паўднёва-заходняга, паміж якімі праходзіць паласа сярэднебеларускіх (пераходных) гаворак. Кожны, каго цікавіць гэтае пытанне, можа ўзяць энцыклапедыю «Беларуская мова» (Мн., 1994), дзе да артыкула «Асноўны масіў беларускіх гаворак» змешчана адпаведная карта, а да артыкула «Дыялектная мова» — «Групоўка гаворак на тэрыторыі Беларусі». У апошняй нават паказаны дыялектныя зоны і групы. Акрамя таго, на абодвух картах асобна жоўтым колерам пазначаюцца заходнепалескія гаворкі, якія розняцца сваёй непадобнасцю да асноўных рысаў беларускай мовы. Калі чытач убачыць на першай з названых карт межы распаўсюджвання беларускіх гаворак, вызначаныя навукоўцамі ў розныя гады, дык, натуральна, ён можа задумацца: а чаму ж беларускія дыялекты разглядаюцца толькі ў межах Рэспублікі Беларусь? Сапраўды, чаму тут няма нашай этнаграфічнай карты з вызначанымі на ёй беларускімі гаворкамі? Тое, што ў артыкуле «Асноўны масіў беларускіх гаворак» аўтар А.Крывіцкі вызначыў, дзе па-за межамі сучаснай Беларусі існуюць беларускія гаворкі, задавальняе мала. Патрэбна менавіта карта. Цікава адзначыць, што ў вядомым выданні *Смоліч А. Геаграфія Беларусі. Мн., 1993 (С. 125)* даецца адрозная ад сучаснай канцэпцыя вызначэння беларускіх гаворак, дзе на карце «Беларускія гаворкі» (шкада, што яе няма ў энцыклапедыі «Б.М.») падаецца: 1) Галоўная беларуская гаворка; 2) Мяккае **р**; расійскія ўплывы; 3) Цокаючая гаворка; 4) Сакуны; 5) Польскія ўплывы; 6) Пінчукі. Але, думаю, гэты рысунак можа мець для нашай дыялекталогіі гістарычнае значэнне. Навука развіваецца. Вядома ж, доследы беларускіх этнографаў канца XIX і пачатку XX стагоддзя ёсць толькі пачаткам. Пачатае трэба працягваць.

Возьмем выданне: *Мельниченко Г. Хрестоматия по русской диалектологии. М., 1985.* Тут можна знайсці і беларускія дыялекты. Гэтак чытаем: «Брянская область Клинцовский район Село Лопатни **69'** Пам'о́р наж ба́т'ка. Пам'о́рла на́ша ма́тка. Астало́с'а нас д'е́с'ат'ч'алав'е́к. П'а́д' д'е́вак, п'ат' хло́пцаў. Жыв'о́м. γолат прызас'т'иγ, н'ajeўшы, бо́сыйа, γо́лыйа jак мы́шы...» (С.45). Самая звычайная беларуская мова. На яе трэба глядзець шырэй, не баючыся рабіць рэзкіх заяваў. Вярнуўшыся да карты «Асноўны масіў беларускіх гаворак» (Б.М.), хачу адзначыць факт таго, што тут паказваюцца нават межы ўкраінскіх гаворак, вызначаныя ў розныя часы ад 1877 да 1980 гадоў. Усе яны зачапляюць сучасную беларускую тэрыторыю. Але дзе межы беларускіх гаворак, праведзеныя сучаснымі даследнікамі? Мы маем «Слоўнік гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa» ў 5-ці тамах, але не маем, прыкладам, адпаведнага слоўніка ўсходніх беларускіх гаворак. Лічу, што ў гэтым плане зроблена мала. Першае, з чаго трэба пачаць, гэта вызначэнне ўсёй тэрыторыі сучаснага распаўсюджвання беларускіх гаворак.

Тым часам выходзіць Лексічны атлас беларускіх народных гаворак, дзе даецца дзяржаўная тэрыторыя Беларусі. Але ж дзяржаўная — не заўсёды этнаграфічная.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

# «Ortdruk» працуе на нашу культуру

Адбылася прэзентацыя беластоцкай выдавецкай фірмы «Ortdruk». Яе наладзіла беларускае праваслаўнае брацтва «Трох віленскіх пакутнікаў» супольна з секцыяй перакладу Саюза пісьменнікаў.

На пачатку імпрэзы з калядной праграмай перад прысутнымі выступіў хор братчыкаў. Пасля кароткага ўступнага слова вядучага прамаўляў епіскап Лідскі і Наваградскі Канстанцін, рэктар духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Прывітаўшы прысутных, уладыка зазначыў, што паміж беларускай Праваслаўнай Царквой і выдавецтвам «Ortdruk» ужо склаліся добрыя адносіны і плённае супрацоўніцтва. Пачатак яму быў пакладзены некалькі гадоў таму, калі на замову Царквы выдавецтва пачало друкаваць спачатку розныя лісткі і брашуры, а цяпер выдаецца больш грунтоўная літаратура, у прыватнасці, часопіс «Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце». Епіскап Канстанцін таксама адзначыў, што беларуская дыяспара на Беласточчыне здолела заняць належнае месца ў грамадскім і культурным жыцці гэтага краю, пацвярджэннем чаго і служыць выдаванне беластоцкімі беларусамі часопіса «Przegląd Prawosławny» і выдавецкая фірма «Ortdruk», а таксама штогадовыя імпрэзы рэлігійнага і культурнага характару, якія ладзяць нашыя суайчыннікі.

Анатоль Бутэвіч у сваім выступе сказаў, што галоўная мэта дзейнасці міністэрства — выхаванне вартага і годнага чалавека, для гэтай справы трэба каардынацыя дзейнасці розных культурных устаноў, і Царквы. Да таго ж нашым выдавецтвам проста неабходна здаровая канкурэнцыя. Яна будзе спрыяць з'яўленню на нашым рынку больш таннай і якаснай прадукцыі і актывізуе дзейнасць беларускіх партнёраў. Хаця ўжо зараз гэты працэс становіцца ўзаемапранікальным, калі «Ortdruk» выдае літаратуру для Праваслаўнай Царквы, то ў Беларусі друкуецца для патрэб беларусаў Беласточчыны «Беларускі каляндар». Таму і надалей трэба мацаваць наша супрацоўніцтва на карысць агульнай справы.

Прывітаўшы гасцей з Беластока, народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль узгадаў сваю сям'ю і тое рэлігійнае выхаванне, якое атрымаў у дзяцінстве, пасля чаго засяродзіў увагу на праблеме ўжывання роднай мовы ў Праваслаўнай Царкве. Як заўважыў пісьменнік, памалу беларускае слова прабівае сабе шлях у Царкве. Тут добры прыклад даюць каталікі, у якіх кожны святар альбо гаворыць, альбо намагаецца гаварыць і ўжываць беларускую мову, і гэта вельмі радуе. Янка Брыль выказаў спадзяванне, што Праваслаўная Царква ўсё ж такі пойдзе таксама гэтым шляхам.

Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, народны паэт Ніл Гілевіч далучыўся да прывітанняў папярэдніх выступоўцаў, засяродзіўся на праблеме разбурэння маралі і разгуле злачыннасці ў грамадстве. І хаця назіраецца паступовы працэс пазбаўлення грамадства ад ранейшых міфаў і догмаў, яшчэ многія людзі ставяцца негатыўна ці індыферэнтна да веры і рэлігіі. Праца з гэтымі людзьмі і мусіць быць прыярытэтнай для Царквы і для рэлігійна-асветніцкіх, і культурных арганізацый, і нацыянальнай інтэлігенцыі.

У сваім слове дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, доктар А.Мальдзіс распавёў аб рабоце ў галіне гісторыі канфесій на Беларусі, якую праводзіць цэнтр. Так, падрыхтаваны зборнік матэрыялаў і дакументаў па гісторыі Праваслаўнай Царквы, іншыя цікавыя выданні. Спадар Мальдзіс спадзяецца, што ў будучыні колькасць выданняў рэлігійна-асветніцкага характару будзе расці, бо поле дзейнасці тут застаецца вельмі шырокім. Як з сумам зазначыў спадар Адам, на Беларусі так і не выдадзены збор прац св.Кірылы Тураўскага, у той час як ў Балгарыі і Германіі яны ўжо вытрымалі па два выданні.

Галоўны рэдактар часопіса «Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце» а.Георгій Латушка казаў аб неперарыўнасці праваслаўнай традыцыі сярод беларусаў Беласточчыны. Аб добрым супрацоўніцтве, якое наладзілася паміж праваслаўным брацтвам «Трох віленскіх пакутнікаў» і выдавецтвам «Ortdruk». Дарэчы, у планах брацтва арганізаваць у сябе міні-друкарню, гэтым самым працягваючы традыцыі кнігадрукавання пры манастырах і брацкіх школах. Аб бліжэйшых планах брацтва ў выдавецкай сферы казаў і старшыня брацтва «Трох віленскіх пакутнікаў» сп.Мікола Матрунчык.

Напрыканцы круглага стала слова ўзялі госці з Беластока: галоўны рэдактар часопіса «Przegląd Prawosławny» спадар Яўгеніюш Чыквін і дырэктар фірмы «Ortdruk» спадар Юрый Андраюк. Спадар Чыквін распавёў, як ён, па адукацыі чыгуначны інжынер, стаў рэдактарам часопіса. Выхаваны ў праваслаўнай беларускай сям'і, ён бачыў вялікую патрэбу ў такім часопісе для асветы і выхавання рэлігійнай і нацыянальнай свядомасці сярод сваіх суайчыннікаў, бо сам быў сведкам асіміляцыі беларусаў на Беласточчыне. Праваслаўныя беларусы здолелі болей захаваць сваю нацыянальную свядомасць. Таму спадар Чыквін і вырашыў заняцца рэдагаваннем часопіса, што, на яго думку, вельмі важна для ўмацавання беларускай свядомасці. Часопіс выдаецца пераважна на польскай мове, бо многія, асабліва маладыя беларусы, лепей разумеюць яе, чым сваю ўласную, але разам з тым досыць рэгулярна з'яўляюцца на яго старонках і беларускамоўныя матэрыялы. Спадар Я.Чыквін спадзяецца, што цяпер і суродзічы на Бацькаўшчыне дзякуючы супрацоўніцтву рэдакцыі часопіса і фірмы «Ortdruk» з царкоўнымі і грамадскімі арганізацыямі змогуць атрымоўваць якасную і недарагую рэлігійную літаратуру на беларускай мове.

Спадар Юрый Андраюк раскрыў прысутным практычны бок дзейнасці выдавецтва і друкарні. Фірма не толькі мае сталы прыбытак, вялікая доля якога ідзе на выданне той жа рэлігійнай літаратуры. Яна заняла трывалае месца на беларускім рынку паліграфічнай прадукцыі. Дарэчы ў фае была наладжана выстава ўзораў друкаванай прадукцыі «Ortdruk». На добрай паперы, з каляровым друкам усе гэтыя выданні яшчэ больш пераконвалі ў тым, што справай займаюцца добрыя прафесіяналы. У канцы спадар Андраюк падзякаваў усім за ўвагу і зацікаўленне дзейнасцю іхняй выдавецкай фірмы і выказаў спадзяванне, што супрацоўніцтва пасля гэтай сустрэчы стане яшчэ больш трывалым і пойдзе на карысць беларусам абапал мяжы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# *Эстонская «Бацькаўшчына»*

Асноўная мэта Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» — падтрымка нацыянальных арганізацый нашых суайчыннікаў, раскіданых лёсам па розных краінах. Сярод іх — Эстонія, у якой пасля абвяшчэння незалежнасці аказалася больш за 25000 грамадзян беларускага паходжання — і простых работнікаў, і высокіх урадавых чыноўнікаў.



**Ніна Савінава на «Спатканні-ІІ»**

Перастаўшы быць часткаю «вялікага савецкага народа» і не жадаючы набываць статус расійскамоўных мігрантаў, людзей без радзімы і грамадзянства, эстонскія беларусы стварылі свае ўласныя нацыянальныя арганізацыі, якія дазвалялі ім захаваць сваю культуру на новай радзіме. У сталіцы Эстоніі Таліне беларускіх суполак было створана аж тры — «Грунвальд», «Лёс» і Таварыства беларускай культуры. Кожная з іх дзейнічала паасобку, не жадаючы супрацоўнічаць з іншымі і раз'ядноўваючы і так нешматлікую беларускую дыяспару Таліна.

Але нічога вечнага няма. Знайшоўся і чалавек, які з дапамогаю «Бацькаўшчыны» здолеў аб'яднаць беларусаў у эстонскай сталіцы. Гэтай асобай была Ніна Савінава — цяпер жыхарка Таліна, а калісьці — выпускніца рэжысёрскага факультэта Менскага інстытута культуры. Паўтара года таму яна з дапамогаю Згуртавання беларусаў свету стварыла і зарэгістравала талінскі Беларускі культурны цэнтр, які таксама атрымаў назву «Бацькаўшчына». На яго ўстаноўчы сход прыйшлі прадстаўнікі ўсіх мясцовых беларускіх суполак, якія пагадзіліся лічыць «Бацькаўшчыну» сваёй агульнай каардынацыйнай структурай.

Першай акцыяй Цэнтра, якая адначасова стала і яго прэзентацыяй, было «Спатканне» — першае супольнае свята ўсёй беларускай дыяспары галоўнага горада краіны. На «Спатканне» былі запрошаныя не толькі мясцовыя беларусы, але і госці з радзімы — фальклорны гурт «Крупіцкія музыкі», прадстаўнікі Міністэрства культуры і «Бацькаўшчыны» — арганізацый, якія аказалі дапамогу ў наладжванні дзейнасці Цэнтра. Свята адбылося ў былым Доме афіцэраў, перададзеным мясцоваму Таварыству славянскіх культур. Сярод яго гасцей, якіх сабралася каля трох тысячаў, былі не толькі беларусы, а і кіргізы, карэйцы, татары, украінцы, расійцы, прадстаўнікі мясцовых уладаў.

Першае «Спатканне», якое адбылося ў канцы 1994 года, надало «Бацькаўшчыне» вядомасць і аўтарытэт у асяроддзі талінскіх беларусаў. Яны пацягнуліся туды.

З таго часу мінула больш года. Чым жыве Беларускі культурны цэнтр сёння? Акрамя культурніцкай працы, адным з кірункаў яго дзейнасці стала наладжванне сувязяў паміж дзвюма краінамі — Беларуссю і Эстоніяй. Пры «Бацькаўшчыне» створаны турыстычны цэнтр, які супольна з нашым Згуртаваннем беларусаў свету збірае ў Менску турыстычныя групы для паездак у Талін, бо ж ніводная з турыстычных фірмаў гэтым не займаецца. У планах Цэнтра — арганізацыя летняга адпачынку ў Эстоніі дзяцей з пацярпелых ад Чарнобыля рэгіёнаў Беларусі, а таксама турыстычныя паездкі эстонцаў у Беларусь.

Але галоўны клопат Цэнтра «Бацькаўшчына» і яго стваральніцы — арганізацыя культурнага і нацыянальнага жыцця талінскіх беларусаў. І займаецца цяпер гэтым людзі з усіх трох аб'яднанняў нашых суайчыннікаў у Таліне. У снежні мінулага года Цэнтр наладзіў чарговае «Спатканне», удзельнікамі якога зноў сталі не толькі беларусы з Таліна ды Менска, а і сябры нашых нацыянальных суполак з іншых гарадоў Эстоніі. А за тыдзень да таго Цэнтр наладзіў прэзентацыю кнігі вершаў эстонскага беларуса — паэта Уладзіміра Дзегцярука, выдадзенай суполкай «БЭЗ».

Сёння талінскую «Бацькаўшчыну» наведваюць не толькі аматары народнай культуры, а і бізнесмены. Магчыма, з іхнім спрыяннем у Таліне з'явіцца і інфармацыйны цэнтр, які дазволіць наблізіць між сабою не толькі культуры, але і эканомікі двух нашых краін, а ў перспектыве — і краін Скандынавіі, сувязі якіх з Эстоніяй зрабіліся моцнымі і трывалымі. Не выключана, што з цягам часу праз Эстонію пралягуць арганізаваныя «Бацькаўшчынай» з Беларусі ў Швецыю, Нарвегію і Фінляндыю і наадварот турыстычныя маршруты і для бізнесменаў, і для тых, хто цікавіцца жыццём іншых краін ды іншых народаў.



**«БЭЗ»**

Трэба спадзявацца, што гэтак будзе — беларусы, якія адчуваюць сябе сваімі ў Эстоніі, захаваюць мову і культуру свайго народа ды зробяць так, каб іх новая радзіма перастала быць далёкім замежжам для старой. І сваю бонду ўкладуць у гэтую справу талінскі Цэнтр беларускай культуры ды яго стваральніца Ніна Савінава.

**У.П.**

*У сусвеце*

## У В'етнаме годнасць роднай мовы абараняюць рашуча

Як паведаміла агенцтва Франс Прэс, у В'етнаме пачалася кампанія па барацьбе супраць злоўжывання замежнымі словамі ў рэкламнай сферы. Наступ на чужаніц пачаўся з Ханоя. Брыгады рабочых з драбінамі, пэндзлямі і вёдрамі з клеем і фарбай за пару дзён ліквідавалі ўсе надпісы на англійскай мове на рэкламных шчытах. Адначасова з наступам на рэкламу ўсім прадпрыемствам, банкам, магазінам і розным канторам улады загадалі памяняць ці наогул зняць шыльды, калі на іх няма назвы прадпрыемства на в'етнамскай мове, пры гэтым больш буйнымі літарамі, чым замежныя. Той, хто не зробіць гэта ў вызначаны тэрмін, рызыкуе атрымаць штраф у памеры 5 тысяч долараў для першага разу. Замежным банкам прапанавана таксама зняць усю светлавую рэкламу.

**У.А.**

# Кола сям'і

*Масару ІБУКА*

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

***Дзіця можа прачытаць па малюнках у кніжцы зусім іншую гісторыю, чым тая, якую чытае дарослы***

Розніца ва ўспрыняцці і рэагаванні ў дзіцяці і дарослага робіцца заўважнай, калі яны разам пачынаюць чытаць кніжку з малюнкамі або казку. Мадам Мантэсоры, вялікі італьянскі першаадкрывальнік ранняй дзіцячай адукацыі, у сваёй кнізе прыводзіць прыклад паводзін маленькага дзіцяці. Маці дала свайму паўтарагадоваму дзіцяці каляровыя малюнкі розных жывёлаў і сцэн палявання. Дзіця паказала малюнкі мадам Мантэсоры і пачало паўтараць на сваёй дзіцячай мове: «Машына, машына». Мадам ніяк не магла знайсці нічога падобнага да машыны і запытальна сказала: «Тут няма машыны?» — «Вось яна», — горда адказаў малеча, паказваючы пальчыкам на малюнак. Тады мадам Мантэсоры прыгледзелася ўважлівей. На малюнку былі намаляваныя сабака, паляўнічы, конь, і, нарэшце, на заднім плане яна разгледзела палоску, падобную да дарогі, і на ёй кропку. Хлопчык ткнуў пальцам у кропку і сказаў: «Машына!» І сапраўды, гэта была маленечкая машынка.

Мадам Мантэсоры прыводзіць яшчэ адзін прыклад. Паўтарагадоваму хлопчыку маці дала ілюстраваную кніжку «Самба» і расказала яму гэту казку.

«Маленькае негрыцяня па імені Самба ішло па дарожцы і несла падарункі, якія яно атрымала на свой дзень нараджэння. Па дарозе ён сустрэў дзікіх звяроў, і яны аднялі ў яго ўсе падарункі. Ён заплакаў і пайшоў дамоў. Але дома тата і мама супакоілі яго. І шчаслівы, ён усеўся за стол, на якім стаяў вялікі святочны пірог, так, як на гэтым апошнім малюнку», — закончыла свой аповяд маці і закрыла кніжку. Яе маленькі сын раптам запярэчыў: «Не, ён плача» і паказаў на апошнюю старонку, дзе быў намаляваны Самба, увесь у слязах.

Іншымі словамі, успрыняцце маленькага дзіцяці спантаннае і часта здаецца дарослым адвольным, таму, зносячыся з дзецьмі, мы павінны вучыцца пазбаўляцца ад прадузятых меркаванняў і выкарыстоўваць усё наша ўяўленне, каб бачыць свет так, як яго бачаць дзеці.

***Пакідаць дзіця на незнаёмага чалавека — рызыкоўная справа***

У адных добрых сумленных бацькоў былі два хлопчыкі, 5 і 4 гадоў. Малодшага ў дзіцячым садку ўсе любілі за яго нязмушанасць і жыццярадаснасць, а старэйшага не вельмі, таму што ён быў пануры і з відавочнымі нядобрымі схільнасцямі. Бацькі былі занепакоены гэтым, не разумеючы, адкуль гэта ўсё з'явілася.

У рэшце рэшт у разгубленасці яны звярнуліся да ўрача. Пасля доўгіх роспытаў высветлілася, што старэйшага сына, калі яму быў год, на працягу 6 месяцаў даглядала маладая няня, таму што яго ўласная маці вельмі блага сябе адчувала пасля другіх родаў.

Доктар выказаў меркаванне, што прычынай цяперашняга стану дзіцяці з'яўляюцца нейкія ўражанні ранняга дзяцінства, магчыма, гэта наступства нейкіх даўніх перажыванняў. Ён сустрэўся з няняй і іншымі людзьмі, якія маглі яму нешта расказаць пра дзяцінства хлопчыка. І высветлілася, што няня, гэта была маладая дзяўчына, замест таго, каб гуляць з дзіцем, на самай справе сустракалася са сваім каханкам у старой цёмнай паветцы на заднім двары, і хлопчык прысутнічаў пры спатканні. Гэта адбывалася кожны дзень. Зразумела, гадаваламу малечу было незразумела, чым займаліся няня і яе каханы, але ён, пакінуты насамоце, чуў шоргат, які даносіўся з цёмнага кута і напаўняў яго душу няўпэўненасцю і боязззю. Неспакойныя, вінаватыя паводзіны дзяўчыны таксама нейкім чынам адбіліся ў яго свядомасці.

Доктар зрабіў выснову, што менавіта гэтыя перажыванні ранняга дзяцінства зрабілі хлопчыка панурым і злосным. Бывае, што абставіны жыцця вымушаюць бацькоў пакідаць сваіх дзяцей пад наглядам чужых людзей. Але я спадзяюся, што гэтая гісторыя пераканае вас, якім асцярожным трэба быць у выбары тых, каму вы давяраеце догляд за сваімі дзецьмі.

***Уражанні ранняга дзяцінства вызначаюць далейшы вобраз думак і дзеянняў дзіцяці***

Калі вас папросяць расказаць выпадак з ранняга дзяцінства, вы са здзіўленнем зразумееце, што амаль нічога не памятаеце, калі толькі нейкая падзея не была выбітной. Нават калі вы і адновіце ў памяці якісь выпадак, калі вам было 2—3 гады, хутчэй за ўсё вы запомнілі яго не з уласнага досведу, а з аповядаў маці і іншых дарослых.

Аднак той факт, што чалавек не памятае ўсяго, што з ім адбылося ў раннім дзяцінстве, не азначае поўнага забыцця. Любое ўражанне і любы досвед, атрыманы ва ўзросце да 3 гадоў, робіцца часткай асновы сфармаванай асобы.

Гавораць, што пад гіпнозам любы чалавек, калі яму ўнушыць, што яму толькі год ад нараджэння, пачынае гаварыць і паводзіць сябе, як гадавалае дзіця. А гэта азначае, што любыя ўражанні дзяцінства назаўсёды захоўваюцца ў свядомасці.

Гавораць, што калі чалавека даводзяць да крытычнага стану, ён раптам пачынае ўяўляць сабе сцэны з дзяцінства.

Вядомы палітычны дзеяч Кукуэй Манака расказваў, што ўспаміны пра дзяцінства прыйшлі да яго нечакана ў шпіталі падчас вайны, калі ён быў на мяжы жыцця і смерці. Ён успомніў, як маці вадзіла яго ў храм, успомніў манаха, які стаяў ля брамы, яго твар, адзенне, манеру размаўляць — усё да дробязей. Пасля ён расказаў пра гэту «праяву» сваёй маці, і высветлілася, што гэта сапраўды адбывалася, калі яму было 2 гады.

Пан Марыятсу Міната, прэзідэнт Даследчага цэнтра Нікка, нарадзіўся ў Кітаі, дзе правёў сваё ранняе дзяцінства. Пасля таго як сям'я пераехала ў Японію, ён ніколі больш не гаварыў па-кітайску і лічыў, што цалкам забыўся на гэтую мову. Праз шмат гадоў ён прыехаў у Кітай з дзелавым візітам. Марыятсу Міната паспрабаваў нешта сказаць, і раптам кітайскія словы так і пасыпаліся. Мова была абсалютна натуральная і размаўляў ён настолькі лёгка, што гэта здзівіла і яго самога, і яго кітайскіх калег.

Гэта яшчэ раз паказвае, як трывала досвед ранняга дзяцінства адбіваецца на мозгу.

Калі не закласці ад самага пачатку трывалы падмурак, бескарысна спрабаваць пабудаваць трывалы будынак. Нават калі ён будзе прыгожы звонку, ён усё роўна развaліцца на кавалкі ад моцнага ветру ці землятрусу.

Ранняе развіццё — гэта прыкладна і ёсць такі падмурак. Яго трэба рабіць трывалым ад самага пачатку, таму што немагчыма пачаць будаваць падмурак, калі будынак ужо гатовы.

*(Працяг будзе.)*

**Падрыхтавала Л.Ш.**

***Мудрыя гавораць***

Марыя Башкірцава — асоба незвычайная, яркая і трагічная, якіх няшмат у сусветнай культуры. Яна пражыла толькі 23 гады (1861—1884). Здаецца, жыццё было да яе літасцівым — яна нарадзілася ў багатай і знатнай сям'і. Бог надзяліў яе магутным інтэлектам, які праявіўся ад самых ранніх гадоў, шматлікімі талентамі. Голас юнай князёўны прыводзіў у захапленне прафесараў музыкі (яна «брала» тры актавы без дзвюх нотаў); малюнкі дзяўчынкі такія дасканалыя, што вопытныя жывапісцы не вераць, што яна нідзе не вучылася маляванню; прыгажосць, моцны характар і вытанчаны розум прыносяць Марыі агульнае захапленне, нават пакланенне... Яна чытае ў арыгінале Гамера, старажытных рымлян, жывучы па сямейных абставінах за мяжою, дасканала асвойвае французскую, італьянскую, нямецкую мовы; падчас прыезду ў родную Палтаву вольна размаўляе па-ўкраінску... Але, як сказаў адзін мастак, які ўпершыню пазнаёміўся з гэтай яскравай асобай, у ёй было «ўсяго занадта». З-за пачатку сухотаў Марыя Башкірцава траціць свой цудоўны голас, у яе слабее зрок, моцна пагаршаецца слых... Усё сваё палымянае жаданне вядомасці, усе свае творчыя сілы Марыя ўкладвае ў занятак жывапісам. Шэсць гадоў займаецца князёўна ў вядомай майстэрні Парыжа, яе талентам апякуюцца знакамітыя мастакі Роберт Флеры і Басцьен-Лепаж. На мастацкіх выставах карціны Марыі Башкірцавай пачынаюць рэгулярна заваёўваць узнагароды... Смерць маладой мастачкі не дала магчымасці даведацца, чым яна магла б зрабіцца ў сусветнай культуры.

Марыя Башкірцава пакінула па сабе дзённік — яна вяла яго ад самага дзяцінства, не сумняваючыся, што некалі ён будзе надрукаваны і будзе цікавы для чытача... Гэты дзённік сапраўды ўяўляе з сябе «цікавы чалавечы дакумент», як з наіўнасцю, уласцівай ёй, запэўнівала Марыя. Думаецца, чытачы «Нашага слова» таксама з цікаўнасцю азнаёмяцца з думкамі гэтай незвычайнай асобы, прычым выказанымі ёю і ў 13-ці, і ў 14-ці, і ў 20-ці гадовым узросце — на адным высокаінтэлектуальным узроўні.

**Л.Ш.**

## З дзённіка Марыі Башкірцавай

Каханне памяншаецца, калі не можа больш узрастаць. Таму, калі людзі цалкам шчаслівыя, яны пачынаюць неўпрыкмет кахаць менш і завяршаюць тым, што аддаляюцца адно ад аднаго.

Усе адчуваюць аднолькава, розніца толькі ў выказванні.

Каханне да мужа, да каханка, да сябра, да дзіцяці знікае і аднаўляецца, бо ўсе гэтыя істоты могуць быць двойчы.

Але маці толькі адна і маці адзіная істота, якой можна даверыцца цалкам, каханне якой бескарыслівае, адданае і вечнае.

Калі хто-небудзь задавольваецца невялікім, дык толькі таму, што не бачыць далей таго, што мае.

Ніколі нельга дазваляць зазіраць у сваю душу, нават тым, хто нас любіць. Трэба трымацца сярэдзіны і, адыходзячы, пакідаць па сабе шкадаванне і ілюзіі. Такім чынам, будзеш здавацца лепшым, пакінеш лепшае ўражанне. Людзі заўсёды шкадуюць тое, што прайшло, і вас захочуць зноў убачыць, але не задавольвайце гэтага жадання неадкладна, прымусьце пакутаваць, аднак не занадта. Тое, што каштуе нам занадта шмат пакутаў, траціць сваю цану, калі нарэшце набываецца пасля стольнкіх перашкодаў: здаецца, што можна было спадзявацца на лепшае. Ці ўжо прымусьце занадта пакутаваць, больш чым занадта... тады вы царыца.

Нішто не знікае ў гэтым свеце. Калі перастаюць кахаць аднаго, прыхільнасць неадкладна пераносіцца на другога, — нават не ўсведамляючы гэтага: а калі думаюць, што нікога не кахаюць — гэта проста памылка. Нават калі не кахаеш чалавека, — любіш сабаку ці мэблю, і з такою ж моцаю, — толькі ў іншай форме.

Кожнае засмучэнне — быццам кропля атраманту, якая падае ў шклянку з вадою: яно ніколі не знікае, а дабаўляецца да ўсіх папярэдніх — робіць шклянку чыстай вады — шэрай, чорнай, бруднай. Колькі пасля ні дабаўляй вады — яна ўсё-такі застанецца бруднай.

Будзем легкадумныя з сур'ёзным чалавекам, які нас кахае, але будзем суровыя з чалавекам легкадумным.

Я не разумею жанчын, якія ўвесь вольны час праводзяць за вязаннем і вышываннем, седзячы з занятымі рукамі і пустой галавой... Павінна з'яўляцца маса непатрэбных, небяспечных думак, а калі яшчэ ёсць што-небудзь асаблівае на сэрцы, думка, пастаянна працуючы над адным і тым жа, павінна прыводзіць да сумных вынікаў.

Нішто не можа быць жахлівей, чым быць дзе-небудзь з чалавекам, якому сумна тое, што вам цікава.

Жыцці народаў падобныя да рэкаў, якія ціха цякуць то па скалах, то па пяску, то між дзвюма гарамі, то пад зямлёю, то праз акіян, з якім яны змешваюцца, перасякаючы яго, але з якога яны зноў выцякаюць самі сабою, змяняючы назву і нават напрамак — і ўсё гэта дзеля таго толькі, каб следаваць аднаму напрамку — таму, які прадвызначаны і невядомы.

Сарамлівасць знікае толькі перад дасканаласцю, бо прыгажосць усемагутная. З тае хвіліны, як могуць сказаць нешта іншае, чым «гэта цудоўна!», значыць, гэта не дасканаласць. І тады ёсць месца асуджэнню і ўсяму астатняму.

Геній можа зрабіць адну няўдалую рэч, але дурань ніколі не зробіць добрай.

Сапраўднае абурэнне робіць чалавека красамоўным. Мужчына, які абураецца ці ўяўляе, што ён абураецца на натоўп, узыходзіць на трыбуну і стварае сабе вядомасць. Жанчына не мае ў сваім распараджэнні ніякай трыбуны; акрамя таго яе асаджаюць бацька, свёкар, маці, свякроўка, усе таму падобныя, якія даймаюць яе цэлы дзень; яна абураецца, яна красамоўная перад сваім начным столікам; у выніку — нуль.

***Зялярскія гутаркі***

## Кмен

«Кменава радзіма — Паўночная і Цэнтральная Еўропа. Распаўсюджаны... да Байкала. Культывуецца ў цэнтральна-чарназёмных і паўднёвых абласцях (вядома ж, былога Саюза. — **Зяляр**). Аднак найболей духмяны кмен даюць Прыбалтыка і Заходняя Беларусь, дзе кмен расце ў дзікім выглядзе», — піша вядомы папулярызатар араматычных зёлак Вільямс Васільевіч Пахлёбкін.

Што, захапіла дух ад гордасці за родны кмен? То каб даць перадыхнуць, перакажу колькі слоў, вычытаных у мудрых кніжках.

Carum carvi — так называюць наш знакаміты кмен вучоныя. Carum — ад грэцкага слова karos. Так славуты рымскі лекар грэцкага паходжання Дзіяскарыд называў нейкую расліну, насенне якой выкарыстоўваў з той жа мэтай, што і аніс.

Як усе ведаюць, кмен сыплюць у капусту, каб яна была смачнай. Але ягоныя духмяныя зернеткі папярэджваюць гніенне і браджэнне, што выходзіць на карысць квашанай капусце. Гэтак жа ўздзейнічае кмен на мікрафлору кішэчніка. Але ён да таго ж стымулюе сакрэцыю стрававальных залозаў, павышае тонус і лагодзіць сутаргі (спазмы) кішэчнай гладкай мускулатуры, спрыяе выдзяленню жоўці, а таксама і шлакавых прадуктаў з нашага цела, што выдаляюцца з моччу і макротамі.

Што такое ўтрымваецца ў гэтых цудоўных зернетках? Найболей — «тлустага» алею (14—22%), у склад якога ўваходзіць шмат так званых гліцэрыдаў або тлустых кіслот, якія ў чалавечым арганізме выконваюць надзвычай важныя функцыі: энергетычную і пластычную. Адна з іх — пальміцінавая кіслата з групы насычаных кіслот — асноўны кампанент біялагічных мембранаў, з якіх складаецца «шкілет» жывёльных і раслінных клетак, у значнай меры вызначае іх уласцівасці.

(Але медыцынская навука больш увагі надае т.зв. ненасычаным тлустым кіслотам. З іх дапамогай можна вызначаць ступень паталогіі.)

У эфірным алеі найболей карвакрола, які і вызначае адметны водыр кмену, а таксама карвон, дзігідракарвон, дзігідракарвеол, цімол, пінен і шмат іншых спіртоў ды іх эфіраў. Пакуль што не ведаюць, што менавіта супакойвае нервовую сістэму, што лечыць сардэчна-сасудзістыя хваробы. Відаць, увесь гэты комплекс унікальных рэчываў заслужыў гонар быць адзначаным выслоўем: «Хто спажывае кмен, з тым ніколі не здарыцца ўдар», г.зн. інсульт. Занатуйце сабе некалькі рэцэптаў, што раяць выкарыстоўваць пры захворванні нервовай сістэмы.

Плады кмену 50,0, кветкі рамонку 30,0, карэнішча з карэннямі валяр'яну 20,0, 2 ст.лыжкі сумесі запарыць 2 шклянкамі кіпеню, настаяць 20 хвілін, працадзіць. Спажываць па паўшклянкі раніцай і столькі ж на ноч.

Плады фенхелю 10,0, кмену 10,0, зелля сардэчніка (пустырніка) 10,0, карэнішча з карэннямі валяр'яну 10,0. Сталовую лыжку сумесі заварыць шклянкай кіпеню, праз гадзіну працадзіць. Спажываць па 1/3 шклянкі 3 разы на дзень пры бяссоніцы.

**Зяляр.**

**ВУЧЫМСЯ**

**Практычная стылістыка**

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# З гісторыі красамоўства на Беларусі

## «Вѣдаешь, княжо...»

*... Каб гэтая праўда*
*З'ісцілася, браце, сягоння...*
*Каб устала на свеце вялікая Праўда,*
*Што крыўду у цемры прагоне.*

**Алесь Гарун.**

Пісьмовыя афіцыйныя сведчанні ўзаемадачыненняў людзей і ўладных структур узнаўляюць самыя розныя жыццёвыя акалічнасці, у тым ліку канфліктныя сітуацыі, спароджаныя беззаконнем і несправядлівасцю дзяржаўнай асобы. Пра такія, складаныя і ў юрыдычным і ў маральным плане, абставіны паведамляе Грамата рыжан да віцебскага князя Міхаіла Канстанцінавіча, напісаная каля 1300 года на тагачаснай мове, уласцівай жыхарам беларускіх земляў.

Стылёвыя рысы гэтага дакумента вызначаюцца ўзаемадзеяннем моўных сродкаў афіцыйнага выказвання і гутарковай стыхіі, што адлюстроўвае погляды сучасных навукоўцаў на дынаміку стыляў. У «Стылістыцы беларускай мовы» А.К.Юрэвіч адзначае:«Найбольш падатлівы гутарковы стыль. Ён пастаянна прыцягвае рознастылёвыя моўныя сродкі, але і сам аказвае вялікі ўплыў на фарміраванне новых прымет у іншых стылях. Гутарковы стыль асімілюе кніжныя элементы і сам пранікае ў кніжныя стылі, нават у найбольш кансерватыўны — афіцыйна-дзелавы». У Грамаце рыжан такое ўзаемадзеянне матывавана сітуацыяй і эмацыйным станам складальнікаў скаргі.

Нягледзячы на абвінаваўчы змест, пачатак граматы традыцыйны — карэктны і паважны: ***«Поклонъ от ратмановъ ризкихъ и от всехъ горожан ко князю витебьскому Михаилу».***

Пры паведамленні аб нагодзе скаргі адзначаецца вялікая ўзрушанасць пакрыўджаных: ***«И ныне пришли предъ насъ наши горожане и то нам поведали со великою жалубою, которые были зиму сь*** [гэту] ***с тобою у Витебыще, как то еси товаръ у нихъ отьял силою и неправдою».*** У традыцыях афіцыйнага стылю названы тагачаснай юрыдычнай тэрміналогіяй іншыя незаконныя дзеянні князя. Яркай стылістычнай адметнасцю паўстае багацце інтанацый і дынамізм гутарковай стыхіі, што праявілася ў дэталёвым, паслядоўным і падрабязным апісанні, часткова пададзеным праз дыялог: ***«И пришли предъ княжо немчи, и молилися тобе: «Выдаи нам розбоиника» — и ты имъ выдавъ.., товаръ еси розбоиниковъ взялъ, и иныхъ людии товаръ былъ ту*** [тут] ***то ть и то поималъ еси*** [займеў]***».*** Расповяд пра кожны з учынкаў — у традыцыях вуснай эмацыйнай прамовы — завяршаецца рытарычным зваротам да князя і ў пэўных варыянтах паўтараецца з мэтай пераканаць яго дзейнічаць па закону. Таму вельмі часта ўпамінаецца юрыдычны тэрмін **правда** ('закон, дамова') і яго антонім **неправда**: ***«Княжо, то еси неправду дѣялъ»...; «...то еси неправду дѣялъ как то ныне новую правду ставишь»; «княжо, отложи лишнее*** [ліхое] ***і всяку неправду».***

Паслядоўна і нязменна пры звароце да князя ўжываецца форма клічнага склону **княжо** — раўнапраўная ў старажытнасці іншым шасці склонам, вядомым зараз (назоўнаму, роднаму і г.д.). Хаця ў сучаснай граматыцы асобна клічны склон не вылучаны, навукоўцы адзначаюць яго прадуктыўнае стылістычнае выкарыстанне і ў мінулым, і зараз. Як сцвярджае ў сваім даследаванні «Паэтыка беларускай народнай лірыкі» аўтарытэтны фалькларыст, знакаміты беларускі паэт Ніл Гілевіч, у народных песнях больш старажытнага паходжання формы клічнага склону характэрны наступным назоўнікам: **ветру** («А не вей, ветру, полем...»); **месяцу, казача, сыне (сынку, сыноньку), дубе, хмелю, явару, зяцю** і інш. Слова **сокал**, напрыклад, сустракаецца ў шасці варыянтах: **сакале, саколю, саколіку, сакалочку, саколічку, саколеньку.** Усе яны вельмі паэтычныя, складаюць нацыянальна-культурную з'яву: «Ты, **сакале, саколеньку,** Не жур маю галаваньку...», «Рушнічок на колічку — Утрыся, **саколічку**...» Да месца будзе прыгадаць і традыцыйны зачын калядак: «Добры дзень, **пане-гаспадару**...»

Клічная форма назоўнікаў надзвычай эмацыйная і пачуццёва ёмістая ў беларускіх казках: «Не, **сынку,** пакуль я жыў, без хлеба мы не будзем» («Стары бацька»); «— Нічога, **паночку,** усё добра, — адказвае бядак калоцячыся» («Як Сцёпка з панам гаварыў»); «— Адгадаў, **пане:** няма нічога сыцей за зямлю» («Разумная дачка»).

Вобразнае і інтанацыйнае багацце, рытарычныя магчымасці клічнай формы, яе моўна-культурную традыцыйнасць адчувалі і па-майстэрску раскрывалі ў сваіх творах многія беларускія пісьменнікі. Напрыклад, у Якуба Коласа: «Прыйдзі пад вечар ты на поле І палюбуйся ім, **сакале!**»; «**Мартыне, мой галубе!** Вырвайся ты з панскай няволі...»; «Запытай ты сябе, **чалавеча:** Што зрабіў для айчыны, ці многа?»

Блізкія да стылістыкі ўзгаданай вышэй старажытнай граматы рыжан, тоесныя ёй па стрыманасці, глыбіні і абурэнню пачуцці нясе клічная форма **княжа** ў Купалавым «Кургане»: «Гуслям, **княжа,** не пішуць законаў...» Нязбыўнае чаканне справядлівасці, таксама характэрнае грамаце, нясе зваротак **браце** ў цытаваных эпіграфам радкоў Алеся Гаруна.

Як слушна заўважае А.К.Юрэвіч, «форма клічнага склону назоўнікаў заўсёды стылістычна афарбаваная, яна — сродак выражэння пяшчоты, любасці, можа мець адценне ўзвышанасці, у пэўных кантэкстах — архаічнасці». Па сцвярджэнню Ніла Гілевіча — «жывая гутарковая мова і сёння гэтую форму клічнага склону вельмі паважае». Дадамо, што праз яе захоўваюць нацыянальна-культурную адметнасць публіцыстычны і мастацкі стылі. Жывячы стылі, захоўваюцца і памнажаюцца моўныя традыцыі.

**Жывое слова**

# Ваба вачэй

Упершыню я пачуў згаданае выслоўе ў вёсцы Канюхі на Маладзечаншчыне. Мой даўні знаёмы, светлай ужо памяці Язэп Ярмаковіч, улюбёны ў жыццё, у Бога, неяк разважаючы пра восень, пра тую яе пару, калі ўсё наўкола становіцца рознакалёрным, сказаў:

— Восень — гэта ваба вачэй маіх.

Мой слых з усяго гэтага выхапіў два словы. І няцяжка здагадацца, якія. Так, гэтымі словамі былі: «ваба вачэй». Тут жа прыгадалася пушкінскае: «очей очарованье». Гэта ж цудоўны адпаведнік пушкінскаму выслоўю, вобразу!

Вядома ж, я тут жа пацікавіўся, як гэтая пушкінская фразема перадаецца па-беларуску. У перакладзе Аркадзя Куляшова, прыкладам, яна прагучала так: «Маркотная пара! Вачэй замілаванне!».

Што ж, няблага. І мілагучна, і меладыйна. Але ведаймa, што наша мова мае і яшчэ адзін адэкватнік для пушкінскага «очей очарование» — «ваба вачэй».

Ці будзе ў мяне яшчэ калі якая нагода згадаць колькі слоў пра Язэпа Ярмаковіча. А зараз жа, мусіць, вельмі дарэчы. Ён быў улюбёны ў нашу Беларусь, у нашу мову. Яму пашчасціла мець за свайго настаўніка Купалавага сябру Андрэя Посаха. Вучыў яго адзін год і Рак-Міхайлоўскі. Добрыя ў яго былі настаўнікі. Але і сам Язэп Ярмаковіч з прыроды меў чуйнуюда слова душу. Зрэдку на яго находзіла натхненне. Тады ён, як умеў, гаварыў свае думкі паэтычным словам. Не ведаю, ці ён сам стварыў гэтую «вабу вачэй», ці пачуў ад каго, але праз яго пускаем у свет гэтае прыгожае, паэтычнае выслоўе. Што ж да самога слова «ваба» яно ў нашых нарматыўных слоўніках не значыцца. Ёсць «вабіць», «вабік», «вабнасць», «вабны», «прывабны», «прывабіць», «завабіць», нават «вабельшчык», а «вабы» няма.

Ці ж нядзіўна гэта?!

Праўда, слова «ваба» засведчана «Этымалагічным слоўнікам беларускай мовы».

І не толькі «ваба», але і «ваб» — пачатковая форма ўсіх слоў, утвораных ад гэтага кораня.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**Культура мовы**

*Павал СЦЯЦКО*

# Слухаючы добрых людзей

Жывая народная мова мае шмат выразных, трапных слоў, якія выкарыстоўваюцца на месцы кніжных, нярэдка чужых, штучных слоў з невыразнаю матывацыяй.

На Гарадзеншчыне, да прыкладу, выкарыстоўваюцца шматлікія назвы асобы паводле яе занятку, рэгулярнага дзеяння. Такія асабовыя назвы ўтвараюцца ад аддзеяслоўных назоўнікаў на **-нне** (у гаворках **-не/-нё**) з выкарыстаннем суфікса **-нік**: саленне (саленё) — салennік, араннe — араннік, трапанне — трапаннік, касенне — касеннік, куплянне — купляннік... Напрыклад, у родных мне гаворках Зэльвеншчыны кажуць: «Ужэ і касеннікі йдуць с касеня, бо прыпякло натто, косы ні хочуць касіць сухое травы. Добры саленнік з майго мужыка: у яго саленё ўдаецца — і капуста і гурочкі натто смашныя, як насоліць» (в.Грабава).

У літаратурнай мове на месцы ўтварэнняў з суфіксам **-нік** бачым іх эквіваленты на **-чык, -льшчык.** Так, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т.5. Кніга І. Мн., 1983, с. 28) чытаем: «Салільшчык, -а, м. Рабочы, які займаецца саленнем чаго-н.». Як бачым, у аснове слова *салільшчык* таксама ляжыць матывавальны аддзеяслоўны назоўнік — *саленне.* Калі кіравацца матывавальным словам *саленне*, то і павінна быць натуральная назва такога «рабочага» — *саленнік.*

Слова *салільшчык,* трэба думаць, перанесена ў беларускі слоўнік з расійскай мовы, пра што сведчыць і «пазычанне» тэксту самога тлумачэння яго семантыкі. Параўнаем: «Солильщик, -а, м. Рабочий, занимающийся солением чего-л.» (Словарь русского языка. В четырех томах. Изд. 2-е. М., 1984, т.4, с. 190) і «Рабочы, які займаецца саленнем чаго-н.» (гл. вышэй).

Асабовыя назоўнікі на **-ннік** бытуюць не толькі на Гродзеншчыне — захадзе Беларусі, але і на ўсходзе (Мсціслаўшчына), і ў цэнтры краіны (Глушчына, Стаўпеччына). У дваццатыя гады гэтакія ўтварэнні падаваліся ў слоўніках. Напрыклад, у братоў Гарэцкіх: высыланьнік, купляньнік, пераймальнік, гуляньнік... Фіксуюцца яны і сёння ў зборах народнай лексікі — у Г.Юрчанкі: абскрабаннік, абскубаннік, купаннік, абстрыганнік...; у Ф.Янкоўскага: накіданнік, падаваннік і іншыя.

Словаўтварэнне назоўнікаў на **-ннік** было ўласцівым і старабеларускай мове (гл. «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы». Мн., 1970). Карыстаўся ўтварэннямі на **-ннік** і класік беларускай літаратуры Якуб Колас. Нават у загалоўку твора бачым гэтакае слова: «*Змаганнікам* за Кастрычнік». І яно арганічна спалучаецца з утваральным словам *змаганне:* «І было змаганне, ой, было змаганне!»

Выкарыстанне слоў гэтага словаўтваральнага тыпу здымае штучнасць, вымаўленчую груваскасць ці калькаваную недарэчнасць замацаваных у слоўніках 50—80 гадоў адпаведных лексічных адзінак. Да прыкладу, слова *наведвальнік,* якое цяжка вымавіць. А вось *наведаннік* — мілагучнае гукаспалучэнне. Або *пакупнік,* якое матывуецца ўтваральным «пакупаць» (пакупнік). Але гэтакага слова не ведае беларуская мова, расійскаму *покупать* адпавядае беларускае **купляць.** Ад яго і натуральныя вытворныя **куплянне** і **купляннік.**

Да таго ж утварэнне ад назоўнікаў на **-нне** — заканамерная ў беларускай мове з'ява. Параўн.: вылучэнне — вылучэн-ец, пастанне — паўстан-ец, змаганне — змаган-ец і інш.

Дык ці трэба збядняць літаратурную мову, пазбаўляючы яе народных вытокаў?

*Мікалай КРЫЎКО*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

1. **ПЛЮ́ХАЦЬ** (пра гразь, жыжку, ваду і пад. пад нагамі, коламі і пад. : утвараць характэрныя гукі тыпу хлюп-хлюп, плюх-плюх) *Пад нагамі плюхала коўзкая гразь* (Новікаў), **ПЛЮ́ХАЦЦА** *Зыбучая твань плюхалася пад нагамі* (Няхай), **ПЛЁХАЦЬ** *Плёхала гразь пад нагамі коней і людзей* (Лупсякоў), **ПЛЁХАЦЦА** *Плёхаецца пад нагамі гразь,* **ПЛЁХКАЦЬ** разм. *Пад нагамі плёхкала дрыгва,* **ПЛЮХЦЕ́ЦЬ** разм. *Конь-Ножык клыгаў, аступаўся, Вада пад коламі плюхцела* (Колас). *Часам вада плюхціць і пад тваімі нагамі* (Паслядовіч), **ПЛЮСКАЦЕ́ЦЬ** *Плюскоча, плюхае вада пад калёсамі на гразкай восеньскай ці вясеннай дарозе* (Лынькоў). *Вада плюскоча — чорная такая, Цягучая, хоць рэж яе нажом* (Гаўрусёў), **ПЛЮ́СКАЦЬ** разм. *Пад нагамі плюскала вада, у сырым паветры адчуваўся востры пах прэлай саломы* (Пянкрат), **ХЛЮ́ПАЦЬ** разм. *З узгоркаў па дарозе беглі ручайкі, а пад нагамі хлюпала вадкая гразь* (Колас). *Выцягнеш кій з багны, адтуль падымаюцца над вадой мутныя чорныя бурбалкі, пад нагамі пакрэктваюць кладкі, ды чаўкае, хлюпае дрыгва* (Дзенісевіч), **ХЛЮПАТА́ЦЬ** разм. *Твар, рукі, вопратка — усё было заліта даждком; вада нацякла ў халявы і хлюпатала ў ботах* (Лупсякоў), **ХЛЮПАЦЕ́ЦЬ** разм. *Была ранняя вясна, пахла вільготнай зямлёй, і на дне траншэі, у нас пад нагамі, часам хлюпацела вада* (Шарахоўскі). *Сакратар намок і зверху і спадыспаду — дарэмна халявы падцягваў — і цяпер хлюпацяць у ботах* (Мурашка), **ХЛЁПАЦЬ** разм. *Хлёпае гразь пад нагамі,* **ШЛЁПАЦЬ** разм. *Шлёпае вада пад нагамі,* **ЧАЎКАЦЬ** разм. *Пад ботамі чаўкае набрынялая вадой зямля* (Асіпенка). *Прыкра чаўкала смярдзючая твань, трэслася і ўгіналася пад нагамі, нібы спружынны матрац* (Шашкоў), **ЧВА́КАЦЬ** разм. *Бацькоў пахавалі на мяжы ля дарогі ў гліністай мокрай зямлі, ледзь не ў гразі, якая прыкра чвакала пад лапатай* (Брадуля). *З усіх бакоў бліжэй і бліжэй трашчалі кусты, чвакала балота* (Карпюк), **ЧВЯ́КАЦЬ** разм. *Ехалі* [эскадроны] *па лесе доўгім, вузкім ланцугом, чвякала пад конскімі нагамі гразь* (Навуменка). *У нізінах пад мохам, як мокрая соль, чвякаў снег* (Алешка), **ЦВЯ́КАЦЬ** разм. *Памякчэла надвор'е, растаў снег, цвякала гразь* (Гурскі). *Пад нагамі цвякае, распаўзаецца набрынялая вадой зямля* (Мяжэвіч), **ЦВЯКЧЭ́ЦЬ** і **ЦВІКЧЭ́ЦЬ** разм. *Набрынялая вадой зямля цвякчэла пад нагамі і прылiпала да ботаў* (Сапрыка). *Пад нагамі аж цвікчыць ад кіслае шэрсці* (Гарэцкі), **ЧМО́КАЦЬ** разм. *І хоць спахмурнеў куток лясны, Пад нагамі мох вільготны чмокае, — Чуецца зялёны шум вясны, Мне відаць вясна ружавашчокая* (Бялевіч). — Параўнайце: 2. Плюхаць.

2. **ПЛЮ́ХАЦЬ** (утвараць гукі тыпу хлюп-хлюп, плюх-плюх пры хадзьбе, руху, яздзе па гразі, жыжцы, вадзе і пад.) *Колы стукаліся аб карэнне, плюхалі па гразі і каціліся бокам* (Колас). *Боты плюхалі па мокрых паплавах* (Чорны), **ПЛЮ́ХАЦЦА** *Боты плюхаюцца ў гэтым перасушаным сонцам парашку, выбіваючы хмары пылу* (Якімовіч), **ПЛЁХАЦЬ** *Пакуль ён* [Максім] *ішоў у ваду, занадта, як здавалася Толю, плёхаючы нагамі; пакуль ён пырхаў і пакрэктваў ад здавальнення, — нехта трэці, здалёк яшчэ, з-за ракі ўбачыўшы хлопцаў, падышоў да кладачкі* (Брыль), **ПЛЁХАЦЦА** *Коні плёхаюцца капытамі па гразі,* **ПЛЁХКАЦЬ** разм. *Адсоўваем фіранку.., каб чутно было, як ходзяць машыны, як плёхкаюць па мокрым тратуары падэшвы чужых ног, як брэшуць сабакі* (Скрыган), **ПЛЮХАЦЕ́ЦЬ** разм. *Айцец Мадэст.. заўважыў, .. што лапці плюхацелі* («Полымя»), **ПЛЮХЦЕ́ЦЬ** разм. *І вось, калі дайшла да яго чарга, а.Мадэст, зірнуўшы на ногі дзеда Мікіты, заўважыў, што яны па самы пояс былі мокрыя, а лапці плюхцелі* (Колас). *Трэба каб ціхенька пад'ехаць, каб колы ціхенька плюхцелі, а не тарахкалі, як будзе ехаць* (Калюга), **ПЛЯСКА́ЦЬ** *Здалёк было чуваць, як пляскаюць па вадзе пліцы* (Асіпенка), **ПЛЁСКАЦЬ** *Захоўваючы цішыню, мы пакінулі лодку і, стараючыся не плёскаць па вадзе, дайшлі да берагу* (Ваўпшасаў), **ХЛЮ́ПАЦЬ** разм. *Па выбоістай гразкай дарозе хлюпалі колы* (Шушкевіч), **ХЛЮПАЦЕ́ЦЬ** разм. *Хоць брод плыткі і вады ён* [Марцін] *у боты не набраў, але яны намоклі зверху і пры хадзе хлюпацелі і пішчалі* (Каваленка), **ХЛЁПАЦЬ** разм. *Хлёпаюць намокныя тапкі,* **ШЛЁПАЦЬ** разм. *Ногі шлёпаюць па мокрым тратуары, больш як трэба згінаючыся ў каленях* (Скрыган), **ЧАЎКАЦЬ** разм. *Чаўкалі ў ботах анучы, а ногі, тонкія ў лытках, боўталіся сюды-туды ў шырокіх і высокіх халявах — да калень* (Капыловіч), **ЧВА́КАЦЬ** разм. *Боты ґрузлі ў гразі, громка чвакалі* (Новікаў), **ЧВЯ́КАЦЬ** разм. *Гулка чвякалі па размяклай снежнай кашы гумавыя бахілы-баўтлякі* (Жычка), **ЧМО́КАЦЬ** разм. *Конь вараны сыта гойдаў задам, тупаў нагамі, чмокаў падковамі па вільготнай зямлі* (Чорны), **ЦВІКЧЭ́ЦЬ** разм. *Падлога аж цвікчэла, столькі было гразі* (Кухараў).

**Сказана**

***Жорж СІМЕНОН***

# СЭНСЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на с.7.)*

служылі апраўданнем забойстваў, а то і знішчэння цэлых народаў.

Напрыклад, слова «цывілізацыя». Якая менавіта? Цывілізацыі змяняліся даволі хутка, калі толькі браць мераю часу чалавечае жыццё.

Што, па сутнасці, мянялася пры пераходзе ад Шумера да так выклікаючай у многіх захапленне эпохі фараонаў, ад фараонаў да Старажытнай Грэцыі, ад Грэцыі да Рыма, ад сярэдніх вякоў да Адраджэння, ад Караля-сонца да Вялікай французскай рэвалюцыі. З пункту гледжання некаторых, чалавечы род няўхільна рухаецца шляхам прагрэсу, праўда, не без узрушэнняў і перыядаў руху назад.

Вось яшчэ адно абстрактнае слова! І новае пытанне — якога прагрэсу?

Ці палепшыліся адносіны і ўзаемаразуменне паміж людзьмі? Схільны меркаваць, што не, нават наадварот, бо нездарма папулярнай тэмай мастацтва стала адзінота ў чалавечым мурашніку, дзе ніхто не ведае, хто ў сапраўднасці кіруе гэтым натоўпам, хоць кожнаму вядома, хто атрымлівае ад гэтага прыбыткі.

Нашы далёкія продкі, чалавекападобныя малпы,забівалі, толькі абараняючыся ці каб наталіць голад; іх зброяй былі даўбешка і крэмянёвая сякера.

Пазней былі вынайдзены дзіда, потым лук, потым арбалет, мушкеті, нарэшце, атамная бомба, якая можа знішчыць разам сотні тысяч чалавек; я ўжо не кажу аб нейтроннай бомбе, пра якую нам вядома толькі, што яна забівае варожых салдат, не разбураючы дамы і не забруджваючы палі.

У Егіпце, дзе ў цяню фараонаў кіравалі жрацы, знакамітыя манументы былі пабудаваны рабамі. Калі я правільна памятаю, а мне часта здараецца памыляцца ў лічбах, у Афінах налічвалася каля дваццаці тысяч жыхароў, але гэтая лічба ўключала толькі свабодных афінян, рабоў жа там было значна болей.

Гэтак жа было ў Рыме. Гэтак жа і зараз, з той толькі розніцай, што цяперашнія рабы добраахвотна прыязджаюць з бедных краін, каб выканаць работу, якой грэбуюць тыя, хто называе сябе цывілізаванымі людзьмі...

А возьмем слова «народ». Яно ўтрымлівае ў сабе два розныя сэнсы, і я пачну з першага.

Гавораць аб егіпецкім народзе, аб грэцкім, рымскім, нямецкім, французскім, амерыканскім...

Ці можна сказаць, што народы гэтыя складаюцца з грамадзян больш ці менш аднаго паходжання?

Упэўнены, такога ніколі не было; хіба толькі выключэнне некаторыя непісьменныя плямёны, якія сапраўды з'яўляюцца аднароднымі групамі падобных адзін на аднаго людзей.

Але вось, скажам, Старажытны Рым. І ў часы імперыі, і ў часы дэмакратыі, і ў часы дыктатуры ён уяўляў сабою кангламерат многіх заваяваных народаў, так што было б складана даць азначэнне ісціннага рымляніна. Іспанцы да нашэсця маўраў былі светлавокімі і светлавалосымі. Былая Свяшчэнная Рымская імперыя германскай нацыі ўяўляла сабою аб'яднанне розных плямёнаў, і паміж жыхаром Памераніі і баварцам не было нічога агульнага.

Варта раскрыць парыжскую тэлефонную кнігу, і заўважыш там самыя нечаканыя прозвішчы, хоць французы лічаць сябе сапраўднымі патомкамі галаў.

У ЗША пасля вынішчэння індзейцаў, ад якіх засталіся толькі мізэрныя рэшткі, якія утрымліваюцца ў свайго кшталту заапарках, што называюцца рэзервацыямі, на вуліцах вялікіх гарадоў можна сустрэць прадстаўнікоў усіх народаў свету. Яны жывуць і працуюць побач, але ўсё адно трымаюцца асобнымі кланамі.

На самай вяршаліне піраміды там знаходзяцца патомкі брытанскіх каланістаў, «бацькоў» рэвалюцыі і людзей самага рознага паходжання, якія прыбылі ў даўнія часы з усіх канцоў свету. Шведы, палякі, італьянцы і, нарэшце, негры і пуэртарыканцы падзелены практычна неадольнымі перагародкамі, што не перашкаджае ім быць амерыканцамі, няхай сабе і не першага сорту.

Адзінае, што іх аб'ядноўвае, — амерыканскі вобраз жыцця, American Way of Life, як кажуць у ЗША.

Калі б гэтае паняцце магло служыць пашпартам, Вашынгтон мог бы ўзяць пад сваю ўладу многія еўрапейскія і не толькі еўрапейскія народы, таму што амерыканскі лад жыцця з незвычайнай імклівасцю распаўсюджваецца па ўсяму свету. Кока-кола, джынсы, змена кожныя некалькі гадоў музычных стыляў — спярша джаз, потым рок, потым дыска — прыжываюцца ў Парыжы, Рыме, Германіі праз год-два пасля іх нараджэння ў Амерыцы, гэтак жа як наркотыкі накшталт марыхуаны ці гераіну.

Народы?.. Я быў бы шчаслівы, калі б усе народы, як пісаў паэт Поль Фор, вырашылі ўзяцца за рукі і «карагод павялі, нібы браты, вакол зямлі».

Можна, здавалася б, уявіць, што ў найбольш магутных краінах меней за ўсё беднякоў. На самай справе гэта не так. Затое не будзе памылкаю сказаць, што ў іх больш чым дзе багацеяў.

Я казаў, што для мяне слова «народ» мае мінімум два сэнсы. У першым значэнні яно ўжываецца, калі гавораць аб насельніцтве розных краін. У другім яно азначае зусім іншае:

«Чалавек, які выйшаў з народа».

«Чалавек з народа».

Інакш кажучы, яно мае зневажальнае адценне і прымяняецца да класа, што стаіць у самым нізе сацыяльнай лесвіцы.

«Гэта жанчына, нягледзячы на яе выгляд, з народа».

А «народны суп», гэта значыць бясплатная поліўка для беднякоў! А народным банкі, куды нясуць свае мізэрныя зберажэнні дробныя ўкладчыкі!

Народныя раманы, народныя балі, фільмы для народа... Можна цэлыя старонкі запоўніць падобнымі выразамі, што сімвалізуюць мяжу паміж «высакароднымі» і ўсімі астатнімі.

Праўда, калі кажуць аб «народнай дэманстрацыі» ці аб «народных хваляваннях», гэтае слова набывае грозны сэнс і згадвае пра ўмяшанне паліцыі.

Застаецца слова «прагрэс», якое ўжываецца ў самых розных значэннях.

Якога ж сапраўды чалавечага прагрэсу дасягнулі мы з часоў антычнасці ці нават з дагістарычных часоў?

Мы ўжо не пакрытыя поўсцю. Жывём не ў пячорах і не на дрэвах... Але я ўсё адно вяртаюся да вечнага свайго прыпеву: «Чаго дасягнулі людзі за многа вякоў?»

Стварылі машыны, з-за якіх давялося ліквідаваць больш дваццаці працэнтаў рабочых месцаў, з-за чаго ва ўсім свеце стала столькі беспрацоўных, што, нягледзячы на мізэрную дзяржаўную дапамогу, яны могуць уяўляць сабой немалую небяспеку.

Можна за некалькі гадзін без прамежкавых пасадак пераляцець з Еўропы ў Амерыку ці Азію, і на гэта расходуецца вар'яцкая колькасць паліва, а ў той жа час людзі не могуць дазволіць сабе як мае быць абагравацца ўзімку.

Можна патэлефанаваць у любы куток зямнога шара, ды толькі сказаць, як правіла, бывае няма чаго, хіба што даць указанне аб продажу ці пакупцы акцый.

Усе падарожнічаюць дзеля самога падарожжа і заўзята шчоўкаюць фотаапаратамі, замест таго, каб забыць разам з кляцамі краіны.

Жахлівая расце колькасць самазабойстваў, і нярэдка маладыя жанчыны,ператвораныя жыццём у робатаў, выкідваюцца разам з малалетнімі дзецьмі з вокнаў. Або муж у адчаі забівае жонку, дзяцей і канчае з сабой. Падобныя гісторыі, пра якія мы столькі разоў чыталі ў газетах, сталі ўжо прывычнымі, не звяртаюць на сябе ўвагі.

Шкада, што ў нас няма статыстыкі самазабойстваў старажытных цывілізацый.

Мяне, безумоўна, палічаць песімістам, хоць, нягледзячы на ўсё, што я тут гавару, я ім не з'яўляюся...

**З кнігі «Destinées», 1981 г.**

## Няхай грае беларуская дуда

Усё жыццё Віктара Мікалаевіча Кульпіна звязана з музыкай. Пятнаццаць гадоў ён аддаў выкладчыцкай працы ў Менскім інстытуце культуры. Абараніў кандыдацкую дысертацыю. Магчыма, ягоная навуковая дзейнасць доўжылася б і далей, калі б ён не пачаў вывучаць народныя інструменты і не сустрэўся б з вядомым музычным майстрам Вячаславам Пратасевічам. Першую спробу зладзіць штосьці падобнае да ягоных работ Віктар Кульпін зрабіў на пачатку васьмідзесятых гадоў. Перш — саламяныя дудачкі, потым — чароткі, жалейкі ды шумавыя інструменты, а зараз ім зладжаная беларуская дуда.



На жаль, не падтрымалі яго прапанову навучаць гэтаму студэнтаў інстытута культуры.

Мастачка Ніна Мікалаеўна Сокалава-Кубай дапамагае надаць інструменту больш эстэтычныя формы. Зараз інструменты майстра гучаць у шмат якіх фальклорных калектывах Беларусі. Іх экземпляры і ў Іспаніі, Аўстрыі, Італіі, ЗША і Канадзе.

Цяпер існуе праблема: майстар не можа прадаць інструмент па ягоным сапраўдным кошце з прычыны беднасці фальклорных калектываў. Кошт застаецца сімвалічны. Без дзяржаўнай падтрымкі майстры музычных народных інструментаў не могуць займацца любімым заняткам. Гэтак можа зніжнуць адзін з важнейшых пластоў нацыянальнай культуры.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА.**

**На здымку:** **В.М.Кульпін** з дудой.
Фота аўтара.

## І смех і грэх

### З ліста ў рэдакцыю

Звярніце ўвагу: Вашая карэктарская служба робіць памылку. Няўжо не зразумела, што замест «тэхабслугоўванне» трэба пісаць «тыхабслугоўванне»?

### Думай! (Think! — англ.)

Гістарычныя працэсы бывае заканчваюцца судовымі.

Запэцкаць сцяг можна і пацалункамі.

Рэзалюцыя: Перанайменаваць эшалон улады ў састаў злачынства.

*Ю.Базылёў.*

Вучыцца трэба да той пары, пакуль не прымусяць перавучвацца.

*В.Каняхін.*

### Сказана

«Калі расійскія ваенныя пачынаюць пераконваць заходніх гасцей, што «мы, европейцы, должны держаться вместе», госці адчуваюць моцную спакусу тэрмінова аддзяліцца...»

*Леанід Млечын, «Известия».*

### *Пачутае «У Лявона»*

Алесь К. прынёс у тэатр сваю новую п'есу. Галоўны рэжысёр, прачытаўшы яе, сказаў:

— Я не магу дапусціць, каб у маім тэатры гучала столькі грубых слоў.

— Дык жа ў маёй п'есе іх няма! — здзівіўся Алесь К.

— Затое колькі іх будзе сказана ў глядзельнай зале.

***Ілія МАРКАВІЧ***

### *Афарызмы*

- Нашто гістарычная дыстанцыя, калі кожны момант гістарычны.
- Траянскаму каню глядзяць не ў зубы, а пад хвост.
- Менш помнікаў — больш жыццёвай прасторы.
- Некаторыя адказныя таварышы робяць неабдуманыя памылкі. А чаго б яны нарабілі, каб трохі абдумалі!
- «Усе мы роўныя!» — кажа дурань.
- За перамогу, якую вы здабылі, ніхто вам не вінаваты.
- Ад кожнага мураша па здольнасцях, а кожнаму ненасытнаму па запатрабаваннях.
- Там, дзе дубец — слуп сістэмы, мышыная норка — Трыумфальная арка.
- Ведаем мы вас, але не можам пазнаць сябе.
- Ці супраць сённяшняга тыя, што змагаюцца за светлае заўтра?
- Адкрываюць маладыя таленты. Задзіраюць ім спадніцы.
- Вядома, хто п'е, а хто плаціць. Невядома толькі, дакуль.

**Пераклаў з сербскай мовы Іван ЧАРОТА.**

## Прэса-куламеса

*Некаторым журналістам здаецца, што калі яны будуць пісаць па-расійску, іхнія шэдэўры лягчэй зразумее чытач. Што іншым разам атрымліваецца, мяркуйце самі.*

### Чыя цешча?

«Когда сыну стукнуло год и семь, жена собрала вещи, прихватила ребенка и переехала к теще».

*«Народная газета».*

### Хто заявіў у міліцыю?

«Любовь была с ним зла — в результате одной из семейных ссор у жены оказалась поврежденной рука. Та заявіла в міліцыю...»

*«Народная газета».*

### «Холодная» галава — надзейны банкаўскі рахунак... Калі чужая?

«На холодную постороннюю голову легко перечислить все глупости, которые он наделал...»

*«Народная газета».*

### На гараджанах сёе-тое расце...

«А што тычыцца **гараджан**, то і тут не абыходзіцца без дзяржавы. **Што б на іх расло**, каб не калгасна-саўгасная арганіка?»

*«Белорусская нива» (10.02.96), з рэдакцыйнага каментара артыкула старшыні Беларускай сялянскай партыі Яўгена Лугіна.*

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 232

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3300 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 26.02.1996 г. у 15 гадзін.